УДК 398(476.4)
ББК 82.3(4Беи)
Ф19

Укладальнік
**Ларыса Фёдараўна Вырко**

**Ф19** **Фальклорныя** песні Прыбяседскага краю / уклад. Л. Ф. Вырко. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 116 с.

ISBN 978-985-7057-56-6.

Зборнік ставіць сваёй мэтай данесці да сучаснага чытача фальклорныя песні самага ўсходняга рэгіёна Беларусі — Прыбяседдзя (Касцюковіцкі і Хоцімскі раёны).

Кніга разлічана на работнікаў культуры, вучняў і студэнтаў гуманітарных устаноў, шырокае кола зацікаўленых нацыянальнай мастацкай спадчынай.

**УДК 398(476.4)**
**ББК 82.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-56-6**

# ЗМЕСТ

# ПЕСНІ З ГЛЫБІНЬ ВЯКОЎ

Усё наша жыццё, пачынаючы з матчынай калыханкі, так ці інакш звязана з песняй. Як рознае наша жыццё з яго праявамі, так і песня бывае вясёлай і сумнай, лірычнай і задуменнай. Бо ў вершах і мелодыях адбіваецца, як у люстэрку, тая эпоха і тыя падзеі, якімі жыве народ.

Кожнае свята з абрадавага календара заўсёды суправаджаецца спевамі, якія прымеркаваны менавіта да тае пары года, калі яно адзначаецца. Песні каляндарнага цыкла падзяляюцца на зімовыя, веснавыя, летнія і восеньскія. Асобна вылучаюцца песні сямейна-абрадавага цыкла і песні пазаабрадавыя, якія не прымеркаваны да пэўнага часу і абставін.

Кожны час нараджае свае песні, але каб лепш усведамляць сябе ў сучаснасці, трэба ведаць свае карані і традыцыйную фальклорную культуру.

Як на Прыбяседскіх лугах растуць самыя розныя кветкі, ствараючы цудоўную гармонію ў прыродзе, так і ў нашых вёсках і гарадскіх паселішчах, сярод мясцовага люду, і сёння можна пачуць такія розныя песні. Ёсць сярод гэтых песень і такія, што перадаліся праз многія пакаленні ад бабулі да ўнучкі і сягаюць сваімі каранямі ў глыбіні стагоддзяў.

Беларуская фальклорная песня жыве і адраджаецца як у цэлым па нашай краіне, так і на прасторах Магілёўшчыны. Але час, які выпаў на долю нашага пакалення, разбуральныя наступствы катастрофы

на ЧАЭС, вымушаюць з вялікай адказнасцю перад нашымі нашчадкамі прыняць неадкладныя меры па захаванню культурных традыцый, якія праяўляюцца ў абрадах, фальклорнай паэзіі і песні. Асобна трэба адзначыць тыя песні, якія мне давялося запісаць ад перасяленцаў з вёсак Брацькавічы і Калодзецкая, бо гэтыя некалі многанаселеныя вёскі зараз не існуюць, іхнія жыхары жывуць у іншых рэгіёнах.

Песні Прыбяседскага краю — гэта рэгіён Касцюковіцкага і Хоцімскага раёнаў — заўсёды былі цікавымі для даследчыкаў фальклору, тут збіралі песні супрацоўнікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і даследчыкі фальклору з Расіі. Нашы знакамітыя паэты А. Куляшоў, А. Пісьмянкоў знаходзілі ў народнай песні крыніцу натхнення для напісання сваіх твораў.

У наш час істотна звузілася сфера жыцця народнай песні, шмат гучыць сучасных мелодый, няма таго, як гэта было ў 60–70-х гадах мінулага XX стагоддзя, каб моладзь спявала на вуліцы ў час адпачынку ці ў свята. Са свайго дзяцінства памятаю гэты час і шмат песень, якія спявала мая бабуля. Асабліва запомніліся «Неўдашэчка» і «Аддаў мяне бацька за злодзея замуж», я іх запісала ад сваёй маці.

Няхай жа разам з новымі мелодыямі гучаць песні роднай зямлі, якія зберaглі для нас шчырыя захавальнікі народнай песеннай традыцыі. За гэта ім нізкі паклон і наша сардэчная ўдзячнасць.

*Ларыса ВЫРКО,*
*складальніца зборніка песень*

# ПЕСНІ ПАЗААБРАДАВЫЯ

## Неўдашэчка

У людзей жоны красавіцы,
Як мак — красны цвет,
А хужэй маей Неўдашэчкі
Ва ўсём свеце нет.
Ой, вазьму сваю Неўдашэчку
За белу руку,
Павяду сваю Неўдашэчку
На быстру реку.
Кіну, брошу я Неўдашэчку
У быстру воду.
Ой, плыві, мая Неўдашэчка,
За быстрай вадой,
Засталася мне калясачка
Да конь вараной.
Толька сесці да паехаці
Да к цесцю на двор:
«Здраствуй, добрый мой цесцюхна!»
«Здраствуй, добрый зяць!
А я сёмую няделюшку без Неўдашэчкі,
Панасілісь, ізарваліся ўсе рубашэчкі.
Дай мне, дай дачку-паненачку
Хоць на адзін дзянёк».

«А я не дам дачку-паненачку
Табе й на часок».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2010 г. ад сваёй маці,*
*Н. З. Буранковай, 1922 г. н., ураджэнкі г. Касцюковічы.*

## Аддаў мяне бацька за злодзея замуж

Аддаў мяне бацька
За злодзея замуж.
Люлі-люлі-люшанькі,
За злодзея замуж.

Злодзей пойдзе красці,
А я сяду прясці.
Пряду, папрідаю,
У акенца паглядаю.

Ці не едзець злодзей,
Ці не вядзець коней?
А як едзець злодзей,
Вядзець трое коней.

Вядзець трое коней,
Чацвёртага — варанога,
Майго бацюшкі раднога.

«Пусці ж, пусці, міленькі,
Да татачкі ў госці».

«Ідзі, ідзі, жонка,
Не скажы пра коней».

Падхаджу я, малада,
К бацькавым варотам.
Мой татачка ходзіць,
Белы ручкі ломіць.

Белы ручкі ломіць,
Пра коні клапоціць.
«Не клапаці, татачка,
Коні твае цэлы.

Коні твае цэлы
У роднага зяця.
Парай жа мне, татачка,
Што мужу казаці».

«Ідзі, дачка, з двору,
Не кажы нічога,
Не кажы нікому,
Няхай вам і коні».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2010 г. ад сваёй маці,
Н. З. Буранковай, 1922 г. н., ураджэнкі г. Касцюковічы.*

## Туман ярам, туман даліною

Туман ярам, туман даліною. (2 разы)
За туманам нічога не відна, (2 разы)
Толькі відна дуба зелянога. (2 разы)
Пад тым дубам крыніца стаяла, (2 разы)
З той крыніцы дзеўка ваду брала (2 разы)
Ды ўпусціла залато вядзерца: (2 разы)
«А хто ж тое вядзерца дастане, (2 разы)
Той са мною на ручнічок стане». (2 разы)
Адазваўся казачэнька з гаю: (2 разы)
«А я тое вядзерца дастану, (2 разы)
Я з табою на ручнічок стану». (2 разы).

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2010 г. ад сваёй маці,*
*Н. З. Буранковай, 1922 г. н., ураджэнкі г. Касцюковічы.*

## Як хацела мяне маці

Як хацела мяне маці
Ды за першага аддаць.
А той першы — першы, ды няверны —
Ой, не аддай мяне, мацъ.

Як хацела мяне маці
Ды за другога аддаць.
А той другі ходзіць да падругі —
Ой, не аддай мяне, мацъ.

Як хацела ж мяне маці
Ды за трэцяга аддаць.
А той трэці, як у полі вецер —
Ой, не аддай мяне, маць.

Як хацела мяне маці
За чацвёртага аддаць.
А той чацвёрты — ні жывы, ні мёртвы —
Ой, не аддай мяне, маць.

Як хацела мяне маці
Ды за пятага аддаць.
А той пяты — п’яніца праклятý —
Ой, не аддай мяне, маць.

Як хацела мяне маці
Ды за шостага аддаць.
А той шосты — малы, недарослы —
Ой, не аддай мяне маць.

Як хацела мяне маці
Ды за сёмага аддаць.
А той сёмы — прыгожы ды вясёлы,
Ён не схацеў мяне браць.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2010 г. ад сваёй маці,*
*Н. З. Буранковай, 1922 г. н., ураджэнкі г. Касцюковічы.*

## Каля рэчкі, каля млына

Каля рэчкі, каля млына расцвіла каліна,
Там дзяўчына ваду брала,
сама — чарнабрыва.

«Бацька добры, бацька добры, а маці ліхая,
Не пускае пагуляці, — кажа маладая. —

Пусці, маці, пагуляці, я не забаўлюся,
Як прапяе першы певень, я дамоў вярнуся».

Пяе певень, пяе другі, а куры сакочуць.
Кліча маці вячэраці, а дачка не хоча:

«Вячэрайце, родна маці, вячэрайце самі,
Надаела маладой мне вячэраці з вамі.

Ой, пайду я ў лес па дровы,
Ой, горя ж мне, горя,
Не пайду я за старога, барадой уколе.
А пайду за маладога, што не мае вуса,
Ён жа мяне пацалуе, а я засмяюся».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Л. Ф. Рабавай, 1953 г. н., і Г. Ф. Дыбцавай, 1952 г. н., перасяленцаў з в. Брацькавічы Касцюковіцкага раёна.*

## Чырвоная калініца

Чырвоная калініца схілілася,
Малада дзяўчыначка журылася,
Пайшла ў сіне морачка — утапілася.

Пайшла яе маці ваду браці,
Стала сваю Галачку ратаваці.
«Не рятуй ты, мамачка, я ж тут буду,
Каго верна любіла, не забуду».

Пріехаў казачэнька із-за Дону,
Прівязаў ён коніка каля дому:
«Выйдзі, выйдзі, Галачка чарнявая,
Напаі-ка коніка белявога!»
А ўжо ж твая Галачка снаряжона,
У глыбокую ямачку закапана.
Будуць а к ней пташэчкі прілетаці,
Будуць яны жалобна шчэбетаці.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Л. Ф. Рабавай, 1953 г. н., і Г. Ф. Дыбцавай, 1952 г. н., перасяленцаў з в. Брацькавічы Касцюковіцкага раёна.*

## Дунай, мой Дунай

Дунай, мой Дунай, шырокій Дунай, (2 разы)
К табе, мой Дунай, сцежка выбіта,
Сцежка выбіта, слязьмі абліта.
Свякрова мая ганарыстая, (2 разы)

Зарана ўстае, работу дае:
«Табе, мой сынок, каня напасці,
Табе, нявестка, вады прінясці».
Каня напасу, ваду прінясу. (2 разы).
«Чаго, мой сынок, ты жонку не б'еш?
Чаму, мой сынок, ты водку не п'еш?»
«Я жонку не б'ю, бо йна жалкая,
А водку не п'ю, бо йна горькая».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Л. Ф. Рабавай, 1953 г. н., і Г. Ф. Дыбцавай, 1952 г. н., перасяленцаў з в. Брацькавічы Касцюковіцкага раёна.*

## Была ў меня мачыха злая

Была ў меня мачыха злая,
Вавек не любіла меня,
Паслала ў лес па маліну,
Бальшую карзіну дала.
Я доўга па лесу хадзіла,
Маліны нідзе не знайшла,
А толька нашла крест-магілу,
І тая травой зарасла.
Упала я там на магіле
І стала там горька рыдаць,
А мамачка спіць і не чуе,
Як дочка рыдает твая.
Цвяточкі мае палявыя,
Чаму вы так рана тцвілі?

Радные маі, дарагія,
Чаму вы так рана ўмерлі?

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Л. Ф. Рабавай, 1953 г. н., ураджэнкі в. Брацькавічы Касцюковіцкага раёна.*

## Ой, там, на гаре

Ой, там, на гаре, ой, там, на крутой
Сядзела, гуляла пара галубоў.
Яны гулялі, цалаваліся,
Сізымі крыламі абдымаліся.
Адкуль узяўся ахотнік-стрялец,
Разбіў, разлучыў пару галубей.
Ён голуба ўбіў, галубку злавіў,
Прінёс да дому, пусціў у камору.
Галубка ні есць, галубка ні п’ець,
На крутую гору ўсё плакаць ідзець.
«Галубка мая сізакрылая,
Чаму ж ты такая клапатлівая?
А там у мяне сем пар галубей,
Ідзі выбірай, каторы мілей».
«А я хадзіла і выбірала,
Да таго не знайшла, каго ўцеряла».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад В. А. Старадуб, 1941 г. н., жыхаркі в. Забычанне Касцюковіцкага раёна.*

## Ой, чэй-та конь стаіць

Ой, чэй та конь стаіць, сівая галава?
Мне спанаравілась, мне спанаравілась
Дзяўчына малада.
Не так дзяўчыначка, як яе лічанька.
«Падай мне, дзеўчына, падай мне, дзеўчына,
На каня ручаньку».
Руку не падала, два словы сказала:
«Ой, лучшэ б я жыла, ой, лучшэ б я жыла,
Кахання не знала.
Каханне, каханне з вечара да рання,
Як сонейка взыйдзе, як сонейка взыйдзе,
Каханне прападзе».
Ой, чэй та конь стаіць, сівая галава?
Ой, спанаравілась, ой, спанаравілась
Мне тая дзеўчына.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад В. А. Старадуб, 1941 г. н., жыхаркі в. Забычанне Касцюковіцкага раёна.*

## Бярёзачка бела

Бярёзачка бела ад ветра шумела, (2 разы)
А я, маладая, замуж захацела. (2 разы)
А выйшаўшы замуж, рана заўдавела. (2 разы)
Не была ў маці чатыры гадочкі. (2 разы)
Маці не пазнала, у хату не пазвала. (2 разы)
Саседзі пазналі, у хатачку пазвалі, (2 разы)

За стол пасадзілі, віном напаілі. (2 разы)
Віном напаілі, мамачкі сказалі. (2 разы)
«Дачушка міла, дзе ж ты ўсё была?» (2 разы)
«Была я на речке, палотны бяліла». (2 разы)

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад В. А. Старадуб, 1941 г. н., жыхаркі в. Забычанне Касцюковіцкага раёна.*

## Ой, пайдзём жа, міла

«Ой, пайдзём жа, міла, (3 разы)
Ды снапы вязаці».
«Ой, хоць пайду, вязаці не буду,
Зрабі ў садзе халадок, я ляжаці буду».
«Ой, пайдзём жа, міла, (3 разы)
Буракі капаці».
«Ой, хоць пайду, капаці не буду.
Буракі ў даліне, баліць мне ў спіне».
«Ой, пайдзём жа, міла, (3 разы)
Да грэчку палоці».
«Ой, хоць пайду, палоці не буду,
Бо та грэчка чорна, а я не праворна».
«Ой, пайдзём жа, міла, (3 разы)
К куму на вяселле».
«Ой, дай Божа, сто гадоў пражыці,
Цераз дзень, цераз два да кума хадзіці».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад В. А. Старадуб, 1941 г. н., жыхаркі в. Забычанне Касцюковіцкага раёна.*

## Я па садзіку гуляла

Я па садзіку гуляла,
Я па садзіку гуляла.
Цвет калінавы ламала,
Цвет калінавы ламала.
У свае мамачкі пытала:
«А ці буду я такая,
А ці буду я такая,
Як калініца тая?»
«Будзеш, будзеш,
Донька, будзеш,
Пака ў мяне жыці будзеш.
А як пойдзеш, донька, ‘т мяне,
Спадзець твая краса с цябе.
Як асыплюць цябе дзеткі,
Як асыплюць цябе дзеткі,
Як калініцу ту веткі,
І паллюцца, донька, слёзы
І паллюцца, донька, слёзы,
Як калініца ў марозы».

*Запісаў у 2012 г. В. А. Матарэнка, 1939 г. н., у в. Шарэйкі ад перасяленцаў з в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## У адном прекрасным месце

У адном прекрасным месце,
На берагу ракі,
Стаяў красівы домік,
У ём жылі рыбакі.
Там жыў рыбак з сям’ёю,
Ахотнік жыў з жэной.
А ў рыбака тры сына,
Красаўцы, Божа ж мой!
Адзін любіў кресцьянку,
Другі любіў княжну,
А трэці — маладую ахотніка жэну.
Ахотнік утрам рана
Пайшоў у лес гуляць.
Там увідаў цыганку
І стаў прасіць гадаць.
Цыганка маладая
Умела варажыць,
Усе карты разлажыла,
Баялась гаварiць.
«Тебе жэна не верна,
Дзесятка так легла,
А туз червей — магіла
Тебе», — праізнесла.
Ахотнік не паверіў,
Цыганке заплаціў,

А сам трапой знакомой
Дамой паварацiў.
Падходзiць блiжэй к дому
I вiдзiць: у крыльца
Его жэна неверна
Ў аб'яцьях рыбака.
Вот выстрал тут раздаўся,
Рыбак на землю паў,
За iм жэна младая,
Затым ахотнiк сам.

*Запiсаў у 2012 г. В. А. Матарэнка, 1939 г. н., у в. Шарэйкi ад перасяленцаў з в. Калодзецкая Касцюковiцкага р-на.*

**Эй, ты, мой хмелю**

«Эй, ты, мой хмелю, хмелю зеляненькiй,
Дзе ж ты, хмелю, зiму зiмаваў,
Што не распускаўся?»

«Зiмаваў я зiму, зiмаваў другую,
Зiмаваў я ў лузе на калiне,
Што не распускаўся».

«Сынку мой, сынку, ты маё дзiцятка,
Дзе ж ты, сынку, ночку начаваў,
Што не разуваўся?»

«Начаваў я ночку, начаваў другую,
Начаваў я ў той дзяўчыны,
Што сватаць я буду».

*Запісаў у 2012 г. В. А. Матарэнка, 1939 г. н., у в. Шарэйкі ад перасяленцаў з в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Ой, хадзіла Машэнька па садочку

Ой, хадзіла Машэнька па садочку,
Іскалола ножэньку на калючку,
Баліць, баліць ножэнька, да не больна.
Любіў парень дзяўчоначку, да не доўга.
Забіраюць парнішэчку ў салдаты,
Забылася дзяўчоначка, эх, папытаці.
Эх, ці ісці замуж, ці няйсці, ці гуляці.
Гуляй, гуляй, дзяўчоначка, як гуляла.
Тапчы, тапчы чаравічкі, як таптала.
Ні кажы-ка хлопцам праўды, як казала.
Яны тваю пасцель белую дай раскінуць,
Яны цябе любіць будуць дай пакінуць.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Доля, мая доля

Доля, мая доля, ой, доля ж, мая доля, (2 разы)
Чаму ж ты не такая?
Чаму ж ты не такая, ды як тая, другая?
(2 разы)
Сяду над рекою,
Ой, сяду над рекою, подопрусь рукою.
(2 разы)
Ой, каб к гэтай думе мая мамачка ка мне.
Ой, селі ж бы мы з ёю, всю ноч гаварілі.
(2 разы)
І всю ноч гаварілі, як на свеце жылі.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Як сын матку з двара прагнаў

А што ж гэта за свет настаў,
Як сын матку з двара прагнаў:
«Ідзі, ідзі, мая мамачка, далоў з двара,
Бо ты мне ўжо наскучыла,
Дзяцей маіх памучыла,
Жэну маю сканфузіла».
Пайшла маці, горька плачучы,
Пайшла маці рыдаючы.
Ідзець маці адным полем,
Ідзець маці другім полем,

На трэцяе ўзыходзіць.
Стонет, бяжыць дарожычка,
Шуміць, гудзець дубровушка,
А сын матку даганяець:
«Вярнісь, вярнісь, мая мамачка,
Без цябе мне беда стала,
Вараны конь на стайне паў,
А старшы сын на лаўку лёг».
«Не вярнуся я, мой сыночык,
Бо я табе наскучыла,
Дзяцей тваіх памучыла,
Жэну тваю сканфузіла».

*Запісала Л. Ф. Вырко ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Ой, на дваре зоречка заряець

Ой, на дваре зоречка заряець,
Маці доньку з двара праганяець:
«Дзе ж ты, донька, ночку валачылась,
Дзе ж ты сваё калечка згубіла?»
«На падоле бела бяллё мыла,
Там я сваё калечка ўраніла».
«Трэба, донька, грамаду збіраці,
Трэба з рэчкі ваду выліваці.
Трэба з рэчкі ваду выліваці,
Пайдзём тваё калечка шукаці».
«Ой, не трэба людзей турбаваці,

Трэба маці праўду расказаці.
З кавалерам ночку прастаяла,
Там я сваё калечка ўцеряла».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## З рукавочка дзевачка

З рукавочка дзевачка
Эх, расадачку сеяла.
Эй-эй-эй-ай-яй-яя.
А сеючы гаварыла:
Эй-эй-эй-ай-яй-яя.
Расці, мая расада.
Эй-эй-эй-ай-яй-яя.
Расці, мая вялікая, скорая.
Эй-эй-эй-ай-яй-яя.
А ў мяне, маладой, вялікае горечка.
Эй-эй-эй-ай-яй-яя.
Вялікае горечка — малое дзіцятка.
Эй-эй-эй-ай-яй-яя.
Кіну, брошу дзіцятка.
Эй-эй-эй-ай-яй-яя.
Эй, у зялёную крапіву.
Эй-эй-эй-ай-яй-яя.
Сама пайду, малада,
Эй-эй-эй-ай-яй-яя.
З казакамі гуляці.

Эй-эй-эй-ай-яй-яя.
Не трэба дзіцятка кідаці,
Трэба яго, дзевачка, гадаваці.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Піце вы гарелку

Піце вы гарелку, (2 разы)
А я буду воду. (2 разы)
А к свайму роду, (2 разы)
Хоць па шыю ў воду. (2 разы)
Хоць я намачуся, (2 разы)
У роду пасушуся. (2 разы)
Род будзе вітаці, (2 разы)
Праўдачку пытаці. (2 разы)
А я, маладая, (2 разы)
Праўду ўсю казаці: (2 разы)
Маріла я свёкра, (2 разы)
А ён не ўміраець, (2 разы)
Маріла б свякрову — (2 разы)
Земля не прімаець. (2 разы)
Маріла б я мужа, (2 разы)
Дык жалею дужа. (2 разы)

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Ой, вецер вее, павевае

Ой, вецер вее, павевае,
Шчэй на зялёненькі лужок.
«Куда ж ты едзеш, куда ўезджаеш,
Ваня, мой міленькі дружок?»
«Я еду в армію служыць,
Цебя не думаю забыць.
Прашу, Галіна, пісьмы пісаць,
Шчэй фатакарткі высылаць».
Ой, прайшоў год, прайшло і два,
Ні фатакарткі, ні пісьма.
Ой, забалела ў Вані сердзечка,
Ой, закружылась галава.
Прішло то время дарагое —
Ваня із арміі ідзёт,
Ён павстрэчаў сваю Галіну —
На руках мальчыка несёт.
«Здраствуй, Галіна, здраствуй, радная.
Куда ж ты, мілая, ідзёш?
А шчэ ж скажы мне, сэрцэ, Галіна,
Чыйго ты мальчыка несёш?»
Галя ні слова не сказала,
А павернулась і пайшла.
Ён вынімае нож із кармана
І убівае сам себя.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Л. Ф. Рабавай, 1953 г. н., і Г. Ф. Дыбцавай, 1952 г. н., перасяленцаў з в. Брацькавічы Касцюковіцкага р-на.*

## Марусенька

«Марусенька, даражэнька,
Раскажы-ка ты мне ўсё харашэнька!
А хто былі ў цебя (3 разы)
Тваі госці без меня?»
«Капітан быў із Берліна,
А маёр із Сахаліна,
А салдацік рядавой
З Беларусіі радной».
«Марусенька, даражэнька,
Раскажы-ка ты мне ўсё харашэнька!
А што ж пілі ў цебя (3 разы)
Тваі госці без меня?»
«Капітан піў руску горьку,
А маёр піў самагонку,
А салдацік рядавой
Піў настоечку са мной».
«Марусенька, даражэнька,
Раскажы-ка ты мне ўсё харашэнька!
А што ж елі у цебя (3 разы)
Тваі госці без меня?»
«Капітан еў парасёнка,
А маёр еў гусянёнка,
А салдацік рядавой
Еў куряціну са мной».
«Марусенька, даражэнька,
Раскажы-ка ты мне ўсё харашэнька!

А дзе ж спалі ў цебя (3 разы)
Тваі госці без меня?»
«Капітан спаў на запечку,
А маёр спаў на прыпечку,
А салдацік рядавой
Спаў на коечке са мной».
«Марусенька, даражэнька,
Расказала ты мне ўсё харашэнька!»

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад свайго бацькі, Ф. Г. Буранкова, 1921 г. н., ураджэнца в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Сівы конік ваду піе

Сівы конік ваду піе,
Ён дарожку чуе.
А хто знае, хто ведае,
Дзе мой мілы начуе?
Калі ж ён пры дарозе,
Памажы ж яму, Божа,
Калі з дзевачкай на пасцелечкі,
Накажы ж яго, Божа.
А ці ж я не такая,
Ды як тая, другая?
Я й харошая,
Я й прігожая,
Толькі доля ліхая.
Каб я ведала, знала,

Што так замужам плоха,
Распусціла б я косы русыя
Да сядзела бы дома.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад свайго бацькі, Ф. Г. Буранкова, 1921 г. н., ураджэнца в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Паследній нынешній дзянёчык

Паследній нынешній дзянёчык
Гуляю з вамі я, друзья,
А заўтра, заўтра чуць святочык,
Заплачыць ўся мая радня.
Заплачуць брацья, мае сёстры,
Заплачыць маць і мой ацец,
Яшчэ заплачыць дарагая,
З каторай трі года гуляў.
Павозка быстра падкаціла,
Паблізу дома маяго,
А стараста стучыць ў акошка:
«Гатоўця сына сваяго!»
Кресцьянскій сын даўно гатовый,
Спяшыць ён маць сваю абняць:
«Пазволь, пазволь ты, дарагая,
Паследній раз пацэлаваць».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад свайго бацькі, Ф. Г. Буранкова, 1921 г. н., ураджэнца в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Ты гуляй, гуляй, мой конь

Ты гуляй, гуляй, мой конь,
Сілы набірайся,
Маладому казаку
У рукі не давайся.
Як спаймаў казак каня,
Зауздаў уздою,
Ударіў шпоры пад бака,
Конь ляціць стрялою.
Ты ляці, ляці, мой конь,
Ляці, не спаткніся,
Каля мілага двара
Стань, астанавіся.
Каля мілага двара
Стукні капытамі,
Ці не выйдзе красна дзеўка
З чорнымі бравямі.
Ой, не выйшла красна дзеўка,
Выйшла яе маці:
«Здраствуй, здраствуй, мілы зяць,
Захадзі ў хату!»
А дзяўчына не спала,
Друга паджыдала,
Правай ручкай абняла
Дый пацэлавала.
А назаўтра ўсё сяло,
Усё сяло ўзнала,

Як казачка казака
Крепка цэлавала.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад свайго бацькі, Ф. Г. Буранкова, 1921 г. н., ураджэнца в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## І сюды гара, і туды гара

І сюды гара, і туды гара,
Паміж тымі горамі крутымі
Ўсхадзіла заря.
Ой, то не заря — дзеўчына мая.
Бела лічка, сама чарнаброва,
Душэнька мая!
«Дзеўчына мая, напаі каня,
З глыбокае тае крынічэнькі,
Што выкапаў я».
«Як буду твая, напаю каня,
З чыстай тае, тае крынічэнькі,
З поўнага вядра».
«Дзеўчына мая, садзісь на каня
Дай паедзем ў дальнюю дарогу,
Да майго двара!»
«Як буду твая, сяду на каня
Дай паедзем ў дальнюю дарогу,
Да твайго двара».
І сюды гара, і туды гара,

Паміж тымі горамі крутымі
Ўсхадзіла заря.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Л. Ф. Рабавай, 1953 г. н., і Г. Ф. Дыбцавай, 1952 г. н., перасяленцаў з в. Брацькавічы Касцюковіцкага р-на.*

## А ў полі вярба

А ў полі вярба,
Пад вярбой вада.
Там хадзіла, там гуляла
Дзеўка малада.
Дзеўка ад вады,
Хлопец да вады:
«Пастой, пастой, дзяўчыначка,
Дай каню вады».
«Рада б пастаяць,
Каню вады даць —
Мае ж ножкі босенькія,
Сцюдзёна стаяць».
«Я скіну парчу,
Ножкі ўкручу,
А прыеду я дадому —
Боцікі куплю».
«Не купляй ты мне,
А купі сабе.
Ёсць у мяне татка і мамка —
Яны купяць мне».

А ў полі вярба,
Пад вярбой вада.
Там хадзіла, там гуляла
Дзеўка малада.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2010 г. ад сваёй маці,*
*Н. З. Буранковай, 1922 г. н., ураджэнкі г. Касцюковічы.*

## Не радзіла мяне маці

Не радзіла мяне маці
Ні ў полі, ні ў доме,
А радзіла мяне маці
У зялёнай дуброве.

Не дала мне мая маці
Ні шчасця, ні долі,
Толькі дала мая маці
Ліцо, чорны бровы.

Бровы мае чорненькія,
Прапала я з вамі,
Нельзя выйсці на вуліцу
За злымі ўрагамі.

А ўсі брацця спаць палеглі,
А я пагуляю,
Як белая лябёдушка,
Па ціхім Дунаю.

Рыба шчука з акунямі,
А я з малайцамі,
Рыба шчука па пясочку,
А я ў церамочку.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Мамачка мая, ой, горя мне, горя

«Мамачка мая, ой, горя мне, горя.
Люлічку насіць ў поле цяжола».

«Дачушка мая, ў горя не ўдавайся,
Люлічку насіць ў поле не збірайся».

«Мамачка мая, я і так не ўдаюся,
Выйду на вуліцу, ад ветру валюся».

Людзі думаюць, што гарелкі нап'юся,
А я, малада, з горя павалюся.

Мне работа на вум няйдзець,
А мне міленькій з ума няйдзець.

Кіну, брошу я работачку,
Пайду, млада, прагуляюся.

З мілым другам павідаюся,
На калечкі паменяюся».

«Ты аддай, мілый, калечанька,
Не сушы маё сярдзечанька.

Я сама дзеўка няглупая,
Дваіх, траіх дружкоў высушу».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## А ля рэчкі, ля Дуная

А ля рэчкі, ля Дуная —
Там дзевачка гуляла,
Йна гуляла, дзела знала,
І нікому не сказала.

Улавіла рыбіначку,
Палажыла на руку,
Тая рыбачка жывая
Ўстрепянулась на руке.

Тая дзевачка спужалась,
Стала речку праклінаць:
«А што б цябе, быстра речка,
Пяском-труском занясло,

Круты твае беражочкі
Травіцаю зараслі.
І як табе, быстра речка,
Без крутога бережка,

Так і мне, маладзенькай,
Без мілага без дружка».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## У зялёным у гаёчку

У зялёным у гаёчку
Быстра речанька бяжыць,
Цераз тую быстру речку
Маставічанька ляжыць.
Як па той па маставічкі
Друг мой міленькій ішоў,
Маставічка абламілась,
Друг мой мілый утануў.
Утануў, утануў мой міленькій,
Толькі ручкаю махнуў.
Пухавая яго шляпа
Вдаль па вадзе паплыла.
Увідала дзяўчыначка
З высокага церама.
Йна крічала, йна гукала
Рыбалоўчыкаў сюда.
«Ах, вы, хлопцы, рыбалоўцы,
Закідайце невады,
Вы цягніце, валакіце
Майго мілага з вады.
Калі жыў будзе мой мілы,

Буду речку выхваляць,
А няжыў будзе мой мілы,
Буду речку праклінаць:
А што б цябе, быстра речка,
Пяском-труском занясло.
Круты твае беражочкі
Травіцаю зараслі.
І як цябе, быстра речка,
Без крутога бережка,
Так і мне, маладзенькай,
Без мілага без дружка».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Не шумі, дубочак

«Не шумі, дубочак,
У зялёным гаі.
Не плач, не печалься,
Малады казача».
«А я буду шумець,
Пакуль павалюся.
А я буду плакаць,
Пакуль ажанюся.
Не сам жа я плачу,
Плачуць мае вочы,
Не даюць пакоя
Мне ні днём, ні ўночы.

Рыба шчука грае,
Сабе пару мае,
А я, маладзенькі,
Парачкі не маю.
Толькі ў мяне пары,
Што глазанькі кары,
Толькі ў мяне долі,
Што чорныя бровi».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Худа, худа сіраціне

Худа, худа сіраціне
На чужой дальняй старонке,
Што не к каму сіраціне
Галовачку пріхінуці.
Пріхінула галовачку
Ды к зялёнаму дубочку.
Дуб зялёный, ліст шырокій,
Нічога ён не гаворіць,
Толькі лісцікам шаволіць.
Укладала сіраціна
Белы ручкі ў карманы,
Вынімала сіраціна
Із кармана кремяшочык,
Вясекала сіраціна
З кремяшочка аганёчык.

Ах, і нету з кремяшочка,
Ах, і нету аганёчка.
Ах, і нету сіраціне, нету
Ні ад каго прівету.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Баліць мая галовачка

Баліць мая галовачка,
Што далёка ад роду.
Калі б я гарелачкі напілася,
Можа б мая галовачка ўнілася.
Завяжу я галовачку
Беленькім платочкам,
Накажу я свайму роду
Ясным сакалочкам.
А шаўковенькій платочак
Галоўку не звяжыць,
А ясненькій сакалочак
Праўдачкі не скажыць.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Чубарыкі-чубчыкі

Чубарыкі-чубчыкі,
Я па садзе хадзіла,
Па зялёнаму гуляла.
Гуляла-гуляла,
Чубарыкі-чубчыкі, гуляла.
Я каліну ламала, на дарогу кідала,
Кідала-кідала,
Чубарыкі-чубчыкі, кідала.
Я прымету давала,
Я прымету давала,
Давала-давала,
Чубарыкі-чубчыкі, давала:
«Ты, казача малады,
Правядзі мяне дамоў,
Дамоў, дамоў,
Чубарыкі-чубчыкі, дамоў.
К маёй матушке радной,
К маёй матушке радной,
Чубарыкі-чубчыкі, радной».

*З кнігі «Памяць. Касцюковіцкі раён». С. 450.*

## Вецер вее

Вецер вее, вецер палавее,
Маці ў дочкі пра жыццё пытае.
«Спытай, маці, ды ў серай вуцяці.
Серы вуці на моры начуюць,
Яны ўсё маё горачка чуюць.
Першае гора — дзіцяці малое,
Другое гора — свякрова ліхая,
Трэцяе гора — мілы пакідае.
Сам ён ідзе ў поле араці,
Мяне бярэ валоў паганяці.
Валы — мае годы маладыя».

*З кнігі «Памяць. Касцюковіцкі раён». С. 450.*

## Ах, косю, мой косю

«Ах, косю, мой косю,
Чаму ты не весел
І галоўку павесіў?
А ці я табе цяжкі,
Ці сядзельца важка?»
«Ах, ты мне не цяжак,
Ні сядзельца тваё.
А цяжка мне тое,
Што ты дзве жонкі маеш
І да іх прыяджаеш.
Сам ляжыш у палозе,

А я стаю на марозе.
Капыцікі мае к лядку
Прымярзаюць,
Грыўкі мае сняжком
Западаюць».

*З кнігі А. Пісьмянкова «Я не памру, пакуль люблю». С. 305.*

## Каля рэчкі, каля броду

Каля рэчкі, каля броду —
Там тры дзевачкі гулялі.
Адна дзевачка запела,
Другая заплакала,
А трэцяя, вумнейшая,
Стала рэчы гаварыць:
«Не плач, дзеўка, не плач, красна,
Ты не лі-ка слёз напрасна.
Прамяняла ты свой розум
Ды на войтаўскую совесць.
Вецер ўзвее, сонца ўгрэе —
Раса на землю ўпадзе,
Толькі цябе, мая дзеўка,
Войт замуж не вазьме».

*Запісана ў 2010 г. ад Н. С. Бялугінай у в. Калодліва Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Гэй, дубе, мой дубе

Гэй, дубе, мой дубе,
Дубочак мой зяляненькі,
Лістом прыўкрашан,
Лістом прыўкрашан.
Панічок мой маладзенькі
Словамі прыяцен,
Словамі прыяцен.
Словы твае прыятныя,
Усе — чортава думка,
Усе — чортава думка.
Калі б цябе не любіла,
Была б я галубка,
Паляцела б к мору,
На ляту б гаварыла:
«Ой, гора мне, гора,
З мора мне не ўныраці,
Беднай маёй галовачке
За панам не бываці».

*Запісана у 2010 г. ад Н. С. Бялугінай у в. Калодліва Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Жаль вечарочка

Ой, жаль жа мне вечарочка:
Не быў мілы ўчора.
Пачула размову,

Што мой міленькі дружочак
Жартуе з другою.
Галасочак я ў лясочак,
Размованькі ўроздань.
Бранілася мая маці,
Што гуляю позна.
Хоць я позненька гуляю,
Добры розум маю.
Каля ціхага Дунаю
Каня напойваю.
Конь вароны ваду не п’е,
Бяду маю чуе,
Што мой міленькі дружочак
З другою начуе.

*Запісана ў 2010 г. ад Н. С. Бялугінай у в. Калодліва Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Вясёла ідзе бяседачка

Вясёла ідзе бяседачка,
Дзе мой бацька п’е.
Насупраці сядзіць кумачка,
Бяседу вядзе,
Бяседачку-замысловачку,
І гарэлачку п’е:
«Ой, пі, кумочак ты мой міленькі,
Люблю ж я цябе.
Не едзь, кумок, ты да доміку,

Пайдзём ка мне».
«Ой, ты, кума мая мілая,
Гарэлка горка.
Паехаў бы да цябе, кума,
Дома жджэ жонка».
«А табе, кумочак міленькі,
Гарэлку ўслашчу,
У светлае каморы я
Пасцель пасцялю.
Сама лягу побач я,
Ручкай абніму».
Вясёлая ідзе бяседачка,
Дзе мой бацька п’е,
А як прыйдзе ён да доміку,
Маю мамку б’е.

*Запісана ў 2010 г. ад Н. С. Бялугінай у в. Калодліва Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Ой, у полі, у полі

Ой, у полі, полі, у полі пры дарозе
Кузенька нова.
А ў той кузеньцы — ды два кавалёчкі,
Родныя браточкі,
Радзілі параду, ой, як брацец брату:
«Каторама, брацец, у салдацікі йсці?
Каторама, брацец, паміж нас жаніцца?»
«Жанісь, жанісь, брацец,

Жанісь, жанісь, старшой,
Дома й заставайся,
А мне, маладому,
Шчаслiва дарога».

*Запісана ў 2010 г. ад Н. С. Бялугінай у в. Калодліва Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Каля млына

Каля млына, ўскрай сяла
Жыла ўдоўка весяла.
На базарнік хадзіла,
Ой, двух купчыкаў любіла.
Ой, двух купчыкаў любіла,
Пару сыноў радзіла.
У ціхі Дунай кінула:
«Ты мой бацюшка Дунай,
Дзяцей маіх васпітай.
Калышы маіх дзяцей
Да асьмнаццаці ляцей».
На асьмнаццатом гаду
Выйшла ўдоўка па ваду.
Азірнулася назад —
Два караблікі стаяць,
У іх два малайцы сядзяць.
Адзін караблік упраўляе,
Другі ўдоўку гукае:
«Ах, ты, ўдоўка, свет ва мне,

Ці пойдзеш замуж за мяне?»
На чым, людцы, свет настаў,
Што сын матку сватаць стаў.

*Запісана ў 2010 г. ад Н. С. Бялугінай у в. Калодліва Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Жыла Ганначка

Жыла Ганначка, ды не ў мамачкі,
Жыла Ганначка, ды ў мачахі.
Была мачаха ўсё сярдзітая,
Штодня Ганначка была бітая.
А шлюць Ганначку скрозь ноч па ваду,
А шлюць Ганначку па халодную:
«Ідзі, Ганначка, не лянуючысь,
Ідзі, Ганначка, не аглядаючысь».
Думала Ганначка, што вятры гудуць,
Ажно за ёй тры ваўкі бягуць,
Каму ручачка, каму ножачка,
Старому ваўку ўся галовачка.

*Запісана ў 2010 г. ад Н. С. Бялугінай у в. Калодліва Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Дубровачка зялёная

Ты не шум, ты не шум, дубровачка зеляна.
Ты не плач, ты не плач, родна мамачка мая.

За той, за той за зялёнай дубравой
Кругом ляжаць, кругом —
усе салдацкія галовы.
Вятрочкі там усе жудою свішчуць, плачуць.
Варанакі там, вароначкі там ашалела полем
скачуць.
Па ўсёй зямлі, па ўсёй зямлі толькі маткі,
ўдовы плачуць.

*Запісана ў 2010 г. ад Н. С. Бялугінай у в. Калодліва Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Сізанькі галубчык

«Ой, ты, сізанькі галубчык, (2 разы)
Чаму садам не лятаеш,
Звонкіх песен не спяваеш?»
«Паламаў я свае крылля,
Лятаючы цераз быллe.
Страціў я свой галасочак,
А цяпер лятаю полем, (2 разы)
Праклінаю сваю долю.
Любіў дзеўку, думаў — доля, (2 разы)
Бацька ўзяці не дазволіў:
"Не жаніся, не дам згоду, (2 разы)
Бяднейшага дзеўка роду"».

*Запісана ў 2010 г. ад Н. С. Бялугінай у в. Калодліва Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Чом, чом, селязень, смуцён, невясёл

«Чом, чом, селязень, смуцён, невясёл?
Чом, чом, селязень, смуцён, невясёл?
Люлюшкі-люлі, смуцён, невясёл».
«Як жа мне, селязню, вясёламу быць?
Учора з вячора быў на возеры,
Вутачку відзеў, вутачку відзеў.
Сягоння зрана вуткі не стала.
Ужо тая вутачка застрялёна,
Застрялёна, панясёна».
«Чом, чом, малойчык, смуцён, невясёл?»
«Як жа мне, малойчыку, вясёламу быць?
Учора звячора быў на вуліцы,
Дзевачку відзеў, дзевачку відзеў,
Сягоння зрана дзевачкі не стала,
Ужо тая дзевачка заручона,
Заручона, павянчона».

*Запісана ад М. Хромчанка ў в. Канічы Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Калі б кусцічык ня цвіў

Калі б кусцічык ня цвіў,
Ой, салавей гнязда не віў.
Калі б дзеўку не любіў,
Ой, не хадзіў бы ж да яе.
Не таптаў бы сапагі,

Ой, да дзевачкі ходзячы,
Ох, не рваў бы пінжакі,
Па парканах лазючы.
Не гнаіў бы шапачкі,
Пад каплямі стоячы.
Насіў кальцо, як сам знаў,
Любіў дзевачку, не ўзяў.
Ой, дзеўку дурачкай назваў.
Дура, дура дзевачка,
Што ў парачку хадзіла,
Малойцу праўду гаварыла.

*Запісана ад М. Хромчанка ў в. Канічы Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## А мой бацька, як цвет

А мой бацька, як цвет,
Завязаў мне белый свет.
Мая маці, як заря,
Рана замуж аддала.
Рана замуж аддала
У вялікую сям'ю.
У вялікую сям'ю,
У чужую старану.
А вялікая сям'я
Вячэраці села,
А мяне, маладу,
Пасылаюць па ваду.

За вадою ішла,
Горькі слёзкі ліла.
А з вадою ішла, спатыкалася.
У сянечных варот прыслухалася.
Стара маці бурчыць,
Свайго сына вучыць:
«Ой, ты, сын, ты, мой сын,
Што ж ты водку ня п'еш?
Што ж ты водку ня п'еш,
Што ж ты жонку ня б'еш?»
«А нашто мне водку піць:
Яна вельмі дарага.
А нашто мне жонку біць?
Яна ў мяне малада.
А за што жонку біць?
Яна ўмее ўсё рабіць:
І тапіць, і варіць,
І са мною гаварыць».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Як пайшлі хлопцы ды рыбалоўцы

Як пайшлі хлопцы ды рыбалоўцы
На Дон рыбу лавіць,
На Дон рыбу лавіць.
Не злавілі яны шчукі-рыбачкі,
А злавілі ліна.

Злавілі ліна, развярцелі,
Паглядзелі — малое дзіця.
Малое дзіця панеслі яны,
Ды дзіцятачку на шырокі двор,
На шырокі двор.
Палажылі яны ту дзіцятачку
На цісовы стол,
На цісовы стол.
А ўсю тую нядзелечку калаколы б’юць,
Калаколы б’юць,
А маладую ды Настасію
Пад ручкі вядуць,
Пад ручкі вядуць.
А за ёй ідуць бацька з мамачкай,
Горька плачучы,
Горька плачучы.
«А не плач, не плач,
Бацька з мамачкай,
Яшчэ дома пяць,
Яшчэ дома пяць.
Не пускайце іх па начлежачкам,
Пушчай дома спяць,
Пушчай дома спяць.
А чужая маць, ды няродная,
З хлопцам ложыць спаць».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Каля рэчэнькі пахажывала

Каля рэчэнькі пахажывала,
Гусі-лебедзі паманівала:
«Гыня-гыня, серыя, дамой».
Павстречал мяне парнішка маладой.
Стаў са мною ён заігрываці,
У бела лічэнька заглядываці.
«Не хватай-ка ты за белае ліцо,
Маё лічэнька разгарістае,
Мая мамачка дагадлівая.
Пріду двору — дагадаецца яна,
Чаго ў донькі разгарелася ліцо.
Ці ад мёду, ці ад гарелачкі-віна,
Ой, ад тае, ад анісавае».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Дубровачка зялёная

«Дубровачка зялёная,
Ой, чаго рана зашумела?»
«Не сама ж я зашумела.
Як наляцелі буйныя ветры,
Дубровачку скалыхнулі,
Ой, зялёную размахнулі».
«Малодушка маладая,
Ой, чаго ж ты рана заўдавела?»



«Не сама ж я заўдавела.
Як наехала палкоў многа,
Майго мілага забралі,
Назад ручкі завязалі,
Пасадзілі на вазочык,
Ды на саменькій задочык».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## А ў лузе на дубочку

А ў лузе на дубочку
Калыхала Марусенька
Сына й дочку.
Калыхала й гаварíла:
«Да чаго ж ты, Марусенька, дахадзіла?»
«Я хадзіла, я гуляла,
Пакуль мая рута-мята прізавяла.
Прізавяла, прізасохла».
«А чаго ж ты, Марусенька, недаросла?»
Калыхала й гаварíла:
«Не ўлюбляйся, Марусенька, ў дваряніна,
Дварянін жа позна ходзіць,
А ён цябе, маладую, з ума зводзіць.
Звёў адну ён, звёў другую,
Звядзець цябе, Марусенька, маладую».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*



## Ой, пайшлі дзеўкі, пайшлі красны

Ой, пайшлі дзеўкі, пайшлі красны
У бор ягад брацьь.
Яны ягад панабралі,
Дамой дый пайшлі.

Ой, адна дзеўка не набрала,
Дамой не пайшла,
Заблудзілась красна дзеўка
Ва сыром бару.

Пріблудзілась красна дзеўка
К круту беряжку,
Ой, йна гукала, йна клікала
Перявозчыка:

«Ой, перявозчык, белмалойчык,
Парень маладой,
Перявязі мяне, красну дзеўку,
На той бок рякі.
Ой, што запросіш, што папросіш,
То я заплачу».

«Ой, мне не нада, мая красна дзеўка,
Нічога з цябе.
Ой, ці ты пойдзеш, красна дзеўка,
Замуж за мяне?»

«Ой, воля бацькі, воля маткі,
Воля не мая.
Ой, ці пайці мне, ці не пайці мне
Замуж за цебя?»

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Ой, да ты, калініца, ты, малініца

Ой, да ты, калініца, ты, малініца,
Ой, да ты не стой, не стой
На гаре крутой.
Ой, да не махай веццем,
Ой, да на сіне море.
Ой, да па сінему морю карабель плыве.
Ой, да карабель плыве,
Аж вада рэве.
Ой, да на том карабле разнаряжэнам,
Ой, да трі палкі салдат,
Маладых ребят.
Ой, да адзін салдат Богу моліцца,
Ой, да Богу моліцца,
Дамой просіцца:
«Ой, да, камандзір-маёр,
Адпусці дамой.
Ой, да адпусці дамой
К жэне маладой.

Ой, да к жэне маладой,
К дробным дзетачкам».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Паехаў муж да на мельніцу

Паехаў муж да на мельніцу,
Пазабыў, пазабыў, пазабыў мяшкі.
А я, малада, нелянівая была,
Нелянівa, тараплівая, дагадлівая:
Схвачу мяшкі ды за ім бяжкі, (2 разы)
Усё за ім, усё за ім, усё за ім бяжкі.

Паехаў муж ды па ваду,
Пазабыў, пазабыў, пазабыў бочку.
А я, малада, нелянівая была,
Нелянівa, тараплівая, дагадлівая:
Схвачу бочку ды за ім скочу, (2 разы)
Усё за ім, усё за ім, усё за ім скочу.

Паехаў муж ды сена касіць,
Пазабыў, пазабыў, пазабыў касу.
А я, малада, нелянівая была,
Нелянівa, тараплівая, дагадлівая:
Схвачу касу ды за ім нясу, (2 разы)
Усё за ім, усё за ім, усё за ім нясу.

Паехаў муж да суседа ў сваты,
Пазабыў, пазабыў, забыў самагонку.
А я, малада, нелянівая была,
Нелянівa, тараплівая, дагадлівая:
Схвачу самагонку ды за ім ўдагонку, (2 разы)
Усё за ім, усё за ім, усё за ім удагонку.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Па небу тучы, па небу хмары

Па небу тучы, па небу хмары,
Па небу тучы, па небу хмары,
Па небу сінем, галубом.
Маё сярдзечка дасаду чуець,
Што мілый ходзіць за другой. (2 разы)

А ён усё ходзіць, а я ўсё знаю,
Сабе спакою не даю.
А я яго люблю, па ём страдаю,
Любіць заставіць не магу. (2 разы)

Калі б ты, месяц, калі б ты, ясны,
Калі б ты з вечара свяціў.
Калі б ты, мілы, быў харошы,
Калі б штовечар прыхадзіў. (2 разы)

Хораша ў моры купацца,
Дзе не халодная вада,

Ой, харашо ў таго ўлюбляцца,
Што не кідае нікагда. (2 разы)

*Запісана ад Г. П. Ламекінай, 1940 г. н., і Н. С. Будзянковай, 1935 г. н., у в. Енаполле Хоцімскага р-на.*

## А вы, ветрыкі, вятрочкі

А вы, ветрыкі, вятрочкі,
Не шуміце-ка й нада мною,
Над дзяўчоначкаю-сіратою.
Пашуміце-ка, ой, ля Дунаю,
Я пайду з міленькім пагуляю.
Пайду з міленькім пагуляю
Каля ціхага ля Дунаю,
Каля ціхага Дунаю.
Дунай ціхенькі ўскалыхнуўся, (2 разы)
Гусі серыя ўстрыпянулісь, (2 разы)
Устрыпянуўшыся, паляцелі.
Устрыпянуўшыся, ой, да паляцелі!
Галасюшэнька закрычалі.
Галасюшэнька, ой, да закрычалі
Ды й пра мілога расказалі.
Ды пра мілога, ой, ды расказалі,
Што мой міленькі п’ець, гуляець.
Што мой міленькі п’ець, ой, гуляець,
Што ён дзяўчыну другую маець.

Хвацерушка небальшая,
Хвацерушка небальшая, ой, небальшая,
Хазяюшка — маладая.

*Запісана ад Г. П. Ламекінай, 1940 г. н., і Н. С. Будзянковай, 1935 г. н., у в. Енаполле Хоцімскага р-на.*

## Радзілася я дзявіцай красівай

«Радзілася я дзявіцай красівай.
Судзьба не дала долі мне шчаслівай. (2 разы)
Я з дванаццаці гадоў па людзях хадзіла,
Дзе качала я дзяцей, дзе кароў даіла. (2 разы)
Хараша я, хараша, ды й плоха надзета,
Ніхто замуж не бярэць дзевачку за ета.
(2 разы)
Пайду з горя ў манастырь, Богу памалюся,
Перад іконаю святой слязою абаллюся.
(2 разы)
Радзілася сіратой, як былінка ў полі,
Мая моладасць прайшла па людзях у нявolі.
(2 разы)
Ты, вецер дый вецярочак з далёкага краю,
Павей, вецер дый вецярочак, з далёкага краю.
Прыедзь, мілы ды чарнабрывы, з далёкага
краю». (2 разы)
«Ой, рад бы я дый пабываці — край дужа
далёк». (2 разы)

«А ў нашым ды калодзісі халодныя ключы.
(2 разы)
Надаела да наскучыла два гадочкі ждаці.
(2 разы)
Ждала год, ждала другі, дый не стала ждаці.
(2 разы)
Папрасіла, дый чорны воран, пісьмо
перадаці». (2 разы)
«Перадайце ды маёй мілай — пусць яна
не плачыць, (2 разы)
А няхай жа йна замуж ідзець, а я ажанюся».
(2 разы)
«А няхай жа ды яго ажыняець ціхая радзіна,
(2 разы)
А звязала мае ручкі а малая дзяціна».
(2 разы)

*Запісана ад Г. П. Ламекінай, 1940 г. н., і Н. С. Будзянковай, 1935 г. н., у в. Енаполле Хоцімскага р-на.*

## Нарадзіла маці Івана

Нарадзіла маці Івана
У зялёнай дуброве,
А не дала маці Івану
Ні шчасця, ні долі.
Толькі дала маці Івану
Усё чорныя бровы.

А за тыя чорныя бровы
У салдацікі ўзялі.
Іванечку маці выла-галасіла,
А йна выла-галасіла,
Долечку прасіла:
«Ой, дай жа ты, Божа,
Іванечку долю,
Ай, Іванечку долю,
Хлопцу маладому».

*Запісана ад М. К. Шалупінай, 1938 г. н., у в. Роскаш Хоцімскага р-на.*

## Гыня, гыня, серы гусі, на ваду

Гыня, гыня, серы гусі, на ваду.
Скушна ж табе, сілязенька, аднаму. (2 разы)
Павялося ў яго пер'я па яму.
То не пер'я, а то дзеўчыны краса,
А ў дзяўчыны не зачэсана каса (2 разы)
І заплаканыя карыя глаза.
А йна ўчора нездаровенька была,
І ў ночы сабе сына радзіла:
«Ты расці, расці вялікі, сынка мой,
У жыцці ідзі дарогаю прамой, (2 разы)
Каб Радзіма ганарылася табой».

*Запісана ад М. К. Шалупінай, 1938 г. н., у в. Роскаш Хоцімскага р-на.*

## Ой, у полі, у полі

Ой, у полі, у полі
Сцеліцца нізка туман,
Там па зялёнаму гаю
Хлопец з дзяўчынай гуляў.
Гулялі яны, гулялі,
Цыганка да іх падыйшла:
«Дай-ка мне правую руку,
Праўду скажу табе я.
Хлопец жа ты чарнаглазы,
Не звадзі дзяўчыну з ума,
Бедная йна сіраціна —
Бацькі і маці няма».
«Няпраўду ты кажаш, цыганка,
Я крэпка дзяўчыну люблю,
Нежна яе я кахаю,
Блізка да сэрца прыжму».
Цыганачка з гаю не выйшла,
Праўду сказала ў глаза.
Там па зялёнаму гаю
Гуляла дзяўчына адна.
Ой, па зялёнаму гаю
Гуляла дзяўчына адна,
А на руках у дзяўчыны
Плачыць малое дзіця.

*Запісана ад М. К. Шалупінай, 1938 г. н., у в. Роскаш Хоцімскага р-на.*

## Ай, дуб да бярозы нізенька схіліўся

Ай, дуб да бярозы нізенька схіліўся, (2 разы)
А сын у бацькі жаніцца прасіўся: (2 разы)
«Жані мяне, бацька, жані маладога, (2 разы)
А калі не жэніш, я сам ажанюся. (2 разы)
Вазьму сабе дзеўку, з каторай люблюся,
(2 разы)
Вазьму з панараву, што б вочачкі кары,
(2 разы)
Вазьму з палюбові, што б чорныя бровы».
(2 разы)
«На-ка табе, сынку, рубля залатога, (2 разы)
Купі сабе, сынку, каня варанога, (2 разы)
Пастаў яго, сынку, у новую стайню». (2 разы)
Стаіць коню ночку, стаіць і другую, (2 разы)
На трэцюю ночку мой коня гаворыць:
(2 разы)
«Майму хазяену гарэлка ня п'ецца, (2 разы)
А мне, вараному, сена не кладзецца». (2 разы)
«Ай, коня, мой коня, што ж табе цяжола?»
(2 разы)
«А мне не цяжолы ні вазы, ні бочкі, (2 разы)
Толькі мне цяжолы ўсе твае пірочкі». (2 разы)

*Запісана ад М. К. Шалупінай, 1938 г. н., у в. Роскаш Хоцімскага р-на.*

## Сама я не ўглядзела

«Сама я не ўглядзела,
Калі маладосць прайшла. (2 разы)
А як маладосць прайшла,
З мілым разлучылася. (2 разы)
З мілым разлучылася,
З нялюбым жанілася. (2 разы)
З нялюбым жанілася,
Дзетачык ряшылася». (2 разы)
«Ай, татачка, татачка,
А дзе ж наша мамачка?
А дзе ж наша родненькая?»
«Ай, дзетачкі, дзетачкі,
А вунь ваша мамачка,
Па саду пахажываіць, (2 разы)
Вішанькі пашчыпываіць,
Ай, вішанькі пашчыпываіць».
«Ой, татачка, татачка,
Та ж не наша мамачка,
То наша разлучніца, (2 разы)
Твая палюбоўніца.
А вунь наша мамачка —
Пад пнём, пад калодаю,
Накрыта саломаю».

*Запісана ад М. К. Шалупінай, 1938 г. н., у в. Роскаш Хоцімскага р-на.*

## Мела хату і сені

Мела хату і сені,
Там два голуба сядзелі.
Ой, ты, голуб, галубок,
Ляці ў маю старану,
Накажы роду маему.
Накажы роду маему,
Што я тута гарую.
Без мамачкі без сваёй,
Без родненькай без сваёй.
Як пайду я ў чыста поле
Сваю мамачку шукаць.
Ўсю даліну абыйшла,
Нідзе маму не знайшла.
Толькі знайшла даліну —
Мамачкіну магілу.
Ручычкамі абняла,
Слёзычкамі абліла:
«Устань, маці, не ляжы,
Жыцці-горю памажы».
«Цішы, дочка, не гукай,
Жыць у горы прівыкай.
Ой, рада б ўстаці,
Твайму горю памагаці.
Ой, жоўтыя пясочкі
Засыпалі мне вочкі,

Дубовыя достачкі
Мне сціснулі ножачкі».

*Фальклорны ансамбль «Медуніца», в. Клін Хоцімскага р-на.*

## Эй, усе дубы-бярозачкі

Эй, усе дубы-бярозачкі
Усе рядам стаяць.
«Паслухай жа, мілы,
Што пра нас гавараць.
Гавараць жа людзічкі,
Што нас разлучыць хацяць».
На дваре жэ дожджычак —
Сільная раса,
На красную ж дзевіцу
Усё гора-таска.
А чаго ж ёй горачка?
Што мілы кідае.
Пакідае міленькі
А вот час і на час.
Седлае ён коніка
Сейчас, сейчас.
«Напой, дзеўка красная,
Ворана каня.
Скажы, дзеўка красная,
Ці кахаеш меня?»

*Фальклорны ансамбль «Медуніца», в. Клін Хоцімскага р-на.*

## Ой, у садзе, у садочку

Ой, у садзе, у садочку
Калыхала Марусенька
Сына і дочку.
Калыхала, калыхала,
Пакуль у яе руках
Мята не прызавяла.
Прызавяла, прызасохла.
«Ці я ў цябе, маці, не даросла?
Не даросла, расці буду,
Палюбіла, любіць буду».
«Ты, сястрыца, мая сястрыца,
Пакалыхвай дзіця маё міла».
«Я не буду калыхаці,
Было табе з дабравольцам не гуляці».
«Дабраволец-чарнабровец
Не адну мяне, маладую,
З ума зводзіць.
З ума зводзіць, не баюся,
Ёсць у полі куст каліны — прыхілюся».
Каліначка расцвілася,
На горачка дзіця радзілася.

*Фальклорны ансамбль «Медуніца», в. Клін Хоцімскага р-на.*

## Як у нашым садзіку

Як у нашым садзіку
Вішын многа.
Ой, гнула я вішыньку —
Не сагнула.
Легла я пад вішыньку
Ды й саснула.
Прыехаў мой міленькі,
Я не чула.
«Устань, устань, мілая,
Прабудзіся.
Па зялёным садзіку
Прайдзіся.
На маёй калясачке
Пракаціся.
Мая калясачка не прастая,
Мая калясачка залатая».

*Фальклорны ансамбль «Медуніца», в. Клін Хоцімскага р-на.*

## Як у лузе каліна стаяла

Як у лузе каліна стаяла,
Як у лузе каліна стаяла.
Пад калінай Галіна гуляла,
Пад калінай Галіна гуляла.
Яна ўсіх казакоў зчаравала,
А аднаму казаку не шкодзіць.

Ён штовечар да дзяўчыны ходзіць:
«Ой, Галіна, ліцо румяна.
Прымі на ноч мяне, маладога».
«Ох, рада б цябе прыняці,
Ды баюся роднае маці».
«Ты не бойся, дзяўчына, нікога.
Я на свеце не здрадзіў нікога.
Ой, не ўбіў я пташку малую,
І не здраджу цябе, маладую».
А дзяўчына ад радасці ўснула,
Пасмяяўся казача, не ўчула.
А дзяўчына праснулася, плача.
А казача на коніку скача.

*Фальклорны ансамбль «Медуніца», в. Клін Хоцімскага р-на.*

## Ой, гара, гара высокая

Ой, гара, гара высокая,
А на той гары чатыры сокала,
Чатыры сокала ды пень бярозавы.
Гуляла Леначка ў кофце розавай,
У кофце розавай, яшчэ з цвяточкамі,
Слёзы каціліся да ручаёчкамі.
Ой, бяда, бяда, ды яка ж бяда,
Паехаў міленькі, да не сказаў куда.
Паехаў мілы мой ў края далёкія.
Асталася я да адзінокая.

Ад атца, ад мацеры да аддалёная,
У тябе, у мілога, я ўлюблёная.

*Фальклорны ансамбль «Медуніца», в. Клін Хоцімскага р-на.*

## Бушавала пагодушка з моря

Бушавала пагодушка з моря,
Міма майго міленькага дома.
Не даспела дзверы адчыніці,
Там мой мілы ў парозе стаіці:
«Здраствуй, міла, чуў я навіну,
Што ты маеш на руках дзеціну».
«Было ў гаду тры ночкі цямненькі, (2 разы)
Была ў мяне цыганачка ў доме,
Ай, не была, тры дні варажыла, (2 разы)
А йна сваё дзіця пазабыла».
«Не праўда, міла, не праўда, чарнабрыва,
Цыганскае дзіця не такое,
Цыганскае дзіця ўсё чарное.
Нада міламу праўду казаць».
«Было ў гаду тры ночкі цямненькі,
Начаваў у мяне казак маладзенькі.
Сядлай, мілы, каня варанога,
Даганяй, мілы, казака маладога».

*Фальклорны ансамбль «Медуніца», в. Клін Хоцімскага р-на.*

## Ой, у полі, ой, у полі сцелецца белы туман

Ой, у полі, ой, у полі сцелецца белы туман.
Там у зялёным гаёчку казак з дзяўчынай
гуляў. (2 разы)
Гулялі яны там, гулялі, цыганка да іх
падышла:
«Дай, парень, правую руку, праўду скажу
табе я». (2 разы)
Казала, казала: «Саколік, не звадзі ты дзеўку
з ума,
Бо яна сіраціна, і так несчасная яна». (2 разы)
Казача цыганке не верыць, казача кахае яе:
«Ідзі ты, зладзейка, адцеда, не навадзі-ка ты
сум на мяне». (2 разы)
Ой, у полі, у полі сцелецца белы туман.
Там жа у вёсцы прыгожай нядаўна вяселле
гуляў. (2 разы).

*Фальклорны ансамбль «Медуніца», в. Клін Хоцімскага р-на.*

# ПЕСНІ КАЛЯНДАРНАГА ЦЫКЛА

## ЗІМОВЫЯ ПЕСНІ

### А калядачкі — бліны-ладачкі

А калядачкі — бліны-ладачкі,
Святы вечар добрым людзям!
А калядныя бліны ладныя,
Святы вечар добрым людзям!
А ў заінькі ды тры сцежачкі,
Святы вечар добрым людзям!
Перва сцежачка — у зялён гарод,
Святы вечар добрым людзям!
Друга сцежачка — у вішнёвы сад,
Святы вечар добрым людзям!
Трэцця сцежачка — на крынічаньку,
Святы вечар добрым людзям!
У зялён гарод — усё наесціся,
Святы вечар добрым людзям!
На крынічаньку — усё напіціся,
Святы вечар добрым людзям!
У вішнёвы сад — прагуляціся,
Святы вечар добрым людзям!

*Запісана ў в. Сялецкае Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Ой, расчашу я сваю русу косачку

Ой, расчашу я сваю русу косачку,
Пайду гусей выганяць.
Ой, гыня, гыня, вы, серы гусачкі,
Ой, сцежачкаю на Дунай.
Ой, выйшла замуж я за п'яніцу,
Цяпер сядзі й думай.
Ой, гыня, гыня, серы гусачкі,
Ой, сцежачкаю на гарод.
Ой, затапіла сваю галовачку,
Па мне плачыць увесь мой род.
Ой, гыня, гыня, серы гусачкі,
Ой, у яравую пшаніцу,
Ой, затапіла сваю галовачку
За горкага п'яніцу.
Ой, гыня, гыня, серы гусачкі,
Ой, у зялёны ў авёс,
А ня чорт цябе, красну дзевачку,
Дый за п'яніцу занёс?

*Запісана ў 2010 г. ад А. А. Ерашэнка ў в. Белая Дуброва Касцюковіцкага р-на. Песні, прымеркаваныя да Гусінага свята («Спадчына нашага краю»).*

# ВЯСЕННІЯ ПЕСНІ

## А вуліца наша шырокая

А вуліца наша шырокая, не вясёлая.
А дзе ж ты дзевак падзевала?
Ці ў зімку замуж паддавала?
Адна дзевачка засталася,
Тая горечка набралася.
Маё горечка вялікае,
У мяне мамачка не родная.
На вуліцу не пускаець,
У каморачку закрываець.
А на вуліцы гармошэчка,
Гляну, гляну ў акошэчка.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Радзіміцкая вяснянка

В чыстом полі, пры дарозі,
А зелён явор кудрявый!
Пасціла дзеўка трі стады коній,
А зялёный сад вішнёвый!
Пасціла, пасціла — крепка ўснула,
Крепка ўснула, коній не пачула.
Прошнулася — нема коній!
Дзеўка стала да й падумала:

«Куды іцці коній шукаць?
Пашоўшы мне цёмным лесом —
Цёмным лесом воўкі з'едзяць;
Пашоўшы мне лужком-бережком —
Лужком-бережком замочуся;
Пашоўшы мне каліновым мостом —
Каліновым мостом утоплюся;
Пашоўшы мне дорогою —
Дорогою северяне зведуць!»
Пашла дзеўка пуцевінкою.
Стрела ж іна трёх молодцоў,
Трёх молойцоў-рыболоўцоў:
«А вы, братцы-рыболоўцы,
Ці не відзелі трі стады коній?»
Одзін кажа: «Я не відзеў!»
Другі кажа: «Я не чуў, не бачыў!»
Трецій кажа: «Я і чуў, і бачыў,
Я і чуў, і бачыў, і сам там быў!
Скажу дзеўцы дзвенаццаць загадак.
Колі адгадаеш, укажу коній!
А што горіць без полымя?
А што бежыць без повода?
А што росце без кореня?
А што цвеце — ніхто не бача?
А што плача без голосу?
А што ў'ецца коло дреўца?
А што йграя, слёз не мая?
А што бело, да не белючы?

А што красно, да не красючы?
А што сіне, да не сінючы?
А што чорно, да не чернючы?
А што солодзей сладкого мёду?»
«Ах, нехай жа я не бацькіна,
Да не бацькіна, а не маткіна,
Што б я загадок не отгадала.
Не отгадала, не сказала.
Заря горіць без полымя,
Вода бежыць без повода,
Камень росце без кореня,
Папороць цвеце — ніхто не бача,
Конік плача без голосу,
А хмель в'ецца коло дреўца.
Дудка йграя, слёз не мая,
Лебедзь белый, да не белючы,
Сонца красно, да не красючы,
Море сіне, да не сінючы,
Ворон чорны, да не чэрнючы,
Сон солодзей сладкого мёду!»
«Вот цеперь, дзеўка, укажу коній:
Твое коні ў чыстом полі,
У чыстом полі, да на дуброві,
Чорным шоўком попутаны,
Золотом-сребром да помузданы;
Едзяць траўку-медуніцу,
П'юць водзіцу ўсё з крыніцы;
Едзяць траўку зеленую,

А зелён явор кудрявый!
Пьюць водзіцу сцюдзёную!»

*З кнігі «Памяць. Касцюковіцкі раён». С. 452.*

**Пувядзём, пувядзём**
*(Карагод водзяць «у крывулькі» на вуліцы)*

Пувядзём, пувядзём,
Крывы танец пувядзём.
Патопчам, патопчам
Вязовыя лапцікі.
Папаўём, папаўём
Пяньковыя аборачкі.
Навару, навару
Я свёкару кушання.
Пакладу, пакладу
Камарова сцёгнушка.
Каілась, каілась,
Што многа ўкінула.
Навару, навару
Я міламу кушання.
Пакладу, пакладу
Палонічак масліца.
Каілась, каілась,
Што мала ўкінула.

*Запісала В. М. Яшчанка ў 1982 г. ад Е. П. Андрэенка, 1915 г. н., і А. П. Сарокінай, 1899 г. н., у в. Нізькі Касцюковіцкага р-на.*

## Пойдзем, дзеванькі, на Дунай гуляць

Пойдзем, дзеванькі, на Дунай гуляць.
Ой, лі, ой, люлі, ды вясну гукаць, у-у-у-у!
Ой, вясна-красна, што нам прынясла?
Ой, лі, ой, люлі, сонца яснае, у-у-у-у!
З-за лесу, гор вясна коціцца.
Ой, лі, ой, люлі, нам гуляць хочацца, у-у-у-у!
Згінь, Зюзя-зіма, хопіць студзіць.
Ой, лі, ой, люлі, дай карагод вадзіць, у-у-у-у!

*Запісана ў 2010 г. ад Н. С. Бялугінай ў в. Калодліва Касцюковіцкага р-на.*

## З-пад гор-гары ручэй коціцца

З-пад гор-гары ручэй коціцца,
Ой, лі, ой, люлі, ручэй коціцца.
А дочка ў мамачкі гуляць просіцца:
«Пусці, мамачка, на ручэй гуляць,
Ой, лі, ой, люлі, на ручэй гуляць.
На ручэй гуляць, салаўёў шчытаць,
Ой, лі, ой, люлі, салаўёў шчытаць.
А ў саколіка галава баліць,
Ой, лі, ой, люлі, галава баліць.
Чым саколіку галаву лячыць?
Ой, лі, ой, люлі, галаву лячыць.
Ой, ці бабкамі, ой, ці старымі?

Ой, ці дзеўкамі, ой, ці краснымі,
Ой, лі, ой, люлі, ой, ці краснымі?

*Запісана ад М. К. Шалупінай, 1938 г. н., у в. Роскаш Хоцімскага р-на.*

## Калакалуша мыя, зеляная мыя

Не шумі а ў лузе,
Не шумі а ў лузе,
Не будзі свёкара.
А мой свёркарка люты,
А ён ня крепінька спіць.
Ён ня крепінька спіць,
А ён рана ўстаець.
А ён рана ўстаець
І мяне пабудзіць.
А я, млода, журуся,
Па ваду ісці баюся.
Па ваду ісці баюся,
Дзевярочку кланяюся:
«Дзевярочак-брахнейка,
Пойдзем-ка ты са мною.
Пойдзем-ка ты са мною,
Бяры вуслі з сабою.
А я буду ваду браць,
А ты ў вуселькі іграць».

*Запісала Т. І. Кухаронак у 1993 г. ад М. Р Чыбусавай, 1915 г. н., у в. Бяседавічы Хоцімскага р-на.*

## На вулку дзеўкі гулялі

На вулку дзеўкі гулялі,
Гулялі, люлі, гулялі.
Мяне, мыладу, гукалі,
Гукалі, люлі, гукалі.
У мяне, у маладой, стары муж,
Стары муж, люлі, стары муж.
Сам на вуліцу ня ходзіць,
Ня ходзіць, люлі, ня ходзіць.
Мяне, мыладу, ня пусціць,
Ня пусціць, люлі, ня пусціць.
А хоць і пусціць — позненька,
Позненька, люлі, позненька.
А ўсіх дзевычык — раненька,
Раненька, люлі, раненька.
А я дзевычык піряйму,
Піряйму, люлі, піряйму.
Скымарошыкаў ім найму,
Ім найму, люлі, ім найму.
Гуляйце, дзеўкі, да свету,
Да свету, люлі, да свету.
Аж да позняга абеду,
Абеду, люлі, абеду.

*Запісала Т. Б. Варфаламеева ў 1993 г. ад Л. М. Саўчанка, 1934 г. н., А. К. Раманенка, 1928 г. н., М. К. Кузьміной, 1928 г. н., і Н. П. Цішчанка, 1928 г. н., у в. Ліпаўка Хоцімскага р-на.*

## Я ўзыйду, узыйду ны гару

Я ўзыйду, узыйду ны гару.
Гляну, гляну я пыд гару. У!
Сінеець моря, лялеіць,
Там мой нялюбы топіцца. У!
Там мой нялюбы топіцца,
На вароненькім коніку. У!
Затапі, Божачка, нялюбага,
Верні варанога коніка. У!
Ды ўзыйду, узыйду ны гару,
Стану, гляну пыд зарю. У!
Стану, гляну пыд зарю,
Там жа любы мой гуляіць. У!
Там жа любы мой гуляіць,
Ён не са мною, з другою. У!
Ён не са мною, з другою,
Ён з падружкаю маёю. У!
Каб жа ты, мая падружка,
Штоб ручку-ножку зламіла. У!
Штоб ручку-ножку зламіла,
Штоб на вуліцу не хадзіла. У!
Штоб на вуліцу не хадзіла,
Майго мілага не любіла. У!
Ай, мой міленькі бел-харош,
Ці сонца яго радзіла. У!
Ці сонца яго радзіла,
Ці ясён месяц гадаваў. У!

А радзіла яго мамачка,
Узгадаваў яго татачка. У!
Калыхалі яго сястріцы
Ў той новенькай святліцы. У!

*Запісала Т. Б. Варфаламеева ў 1993 г. ад Н. А. Міхаленка, 1930 г. н., у в. Варвараўка Хоцімскага р-на.*

## Ябланя мая кучерявая

Ябланя мая кучерявая,
Люлюшкі, люлі, кучерявая,
Годзе табе ў лузе стаяць,
А пара табе ў сад перяйсці,
У сад перяйсці, корень пусціць,
Корень пусціць у глыбі моря,
У глыбі моря, у глыбі сінега.
Годзе, Манічка, у мамкі жыць,
А пара табе замуж ісці.
Замуж ісці за Іванічку,
За Іванічку, за маладога,
За маладога, за прігожага.

*Запісала Т. Б. Варфаламеева ў 1993 г. ад Л. М. Саўчанка, 1934 г. н., у в. Ліпаўка Хоцімскага р-на.*

## Ой, пышла ўдоўка пышанічаньку сеяць

Ой, пышла ўдоўка пышанічаньку сеяць.
А йна сеіла ды ў Бога прасіла:
«А што б мыя пышанічынька ўрадзіла».
А шчэ й ўдоўка ды да двору не дыйшла,
А ўжэ ж яе пышанічынька ўзыйшла.
А шчэ й ўдоўка ны лаўку ня села,
Як ўжо ж яе пышанічка паспела.
Пыйшла ўдоўка пышанічыньку жаці,
Йна выжала піряпёлычку з дзецьмі:
«Дзеткі мае, а мне горічка з вамі».
«Не гарюй-ка, наша мамычка, з намі.
Ой, мы вырасцім, пыляцім жа мы самі.
Пыляцім мы ды на сінія моря,
Што б не было нашый мамачкі горя.
Пыляцім мы ды за цёмныя лясы,
Што б не было нашый мамачкі таскі».

*Запісала Т. Б. Варфаламеева ў 1993 г. ад В. Ц. Кузьмянковай, 1928 г. н., у в. Янаполле Хоцімскага р-на.*

## Ой, калі б кусцічык ня цвіў

Ой, калі б кусцічык ня цвіў,
Ой, сылавей не запяе.
Ой, калі б дзеўку не любіў,
Ой, не хадзіў бы я ды яе.

Ой, не хадзіў бы ды яе,
Ой, не любіў бы я яе.
Ой, ня дны сыпожкі стыптаў,
Ой, ды яе я ходзючы.
Ой, ня дну кепычку знавіў,
Ой, пыд каплямі я стоючы.
Ой, ня дзін ножык пыламаў,
Ой, вакошычка атпіраў.
Ой, вакошычка атпіраў,
Сабе дзевычку выбіраў.
Ой, выбраў сабе дзевычку,
Ой, бяляначку белыю.
Ой, бяляначка белыя,
Ой, бялей снегу белыга.
Ой, бялей снегу белыга,
Красней маку красныга,
Ой, красней маку красныга,
Ой, жарчэй сонца ясныга.

*Запісала Т. Б. Варфаламеева ў 1993 г. ад Н. А. Старасценка, 1927 г. н., і групы спявачак у в. Янаполле Хоцімскага р-на.*

## Ай, адна там была

Ай, адна там была
Ды былінчка ў полі.
Ой, не даў жа мне Бог
Да ні шасця, ні долі.

Толькі даў жа мне Бог
Разаріцеля ў домі.
Ай, ён ночычку п’еЦь,
А дзянёчык гуляя.
Як прыйдзе да дому,
Мяне б’ець, карая.
А за што ж ты, мой мілы,
Мяне б’еш, караеш?
Ці ты, мой міленькі,
К рабоце прівучаеш?
А мяне да і мамачка
А і ў горі радзіла.
А мяне ж то маленькаю
К рабоце прівучыла.

*Запісала В. І. Басько ў 1995 г. ад Г. Г. Астапенка, 1920 г. н., у в. Белая Дуброва Касцюковіцкага р-на.*

# ЛЕТНІЯ ПЕСНІ

## Ой, смародзіна мая чорная

Ой, смародзіна мая чорная,
Смародзіна мая чорная, ух!
Ой, чарней цябе ва всём лузе нет.
Ой, ты, дзеўка, дзеўка красная, ух!
Ой, твая долечка, твая долечка несчасная.
Ой, пра цябе людзі гаворюць, ух!
Ой, пра цябе людзі гаворюць,
Ой, што да цябе казакі ходзюць, ух!
Ой, вечарынаю з лучынаю, ух!
З лучынаю сасновую,
Ой, да дзеўкай чарнаброваю, ух!

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Нанімала дзяўчоначка

Нанімала дзяўчоначка
І касцоў, і грябцоў,
Яны косюць і грябуць
І ў капёшычкі кладуць.
Адзін жа маладзец
І не косіць, ні грябець,
Толькі з горачкі на горачку
Пахажываець,

Сапагамі, каблукамі
Палясківаець,
На дзяўчоначку паглядываець.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2013 г. ад М. Н. Цыкуновай, 1947 г. н., ураджэнкі в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.*

## Пойдзем, дзевачкі, у лугі гуляць

Пойдзем, дзевачкі, у лугі гуляць,
У лугі гуляць, вянкі завіваць.
Як заўём вянкі ды на ўсі святкі,
Ды на ўсі святкі, на ўсі празнічкі —
На Духоўскія, на Пятроўскія.

Як пайду, пайду
Ў сад зялёненькій гуляць.
Як сарву, сарву
З розы аленькій цвяток,
З розы аленькій цвяток.
Як саўю, саўю
На галовачку вянок.
Любіў ды ні ўзяў
Мяне міленькій дружок.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Падкошана, падвалена

Падкошана, падвалена
Трава-травушка зялена.
Падкасілі, падвалілі
Хлопцы, хлопцы маладыя.
Падкасёмшы, падваліўшы,
Стала траўка сохнуць-вянуць.
Стала траўка сохнуць-вянуць,
Прыйшлі дзеўкі траўку грабаць.
Прыйшлі дзеўкі траўку грабаць,
Сталі хлопцы пра іх баяць.
Ракіт долу нахіліўся,
Хлопец у дзеўку ўлюбіўся.

*Запісана ў 2010 г. ад Н. С. Бялугінай у в. Калодліва Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Чырвоная калініца

Чырвоная калініца
Над вадою хілілася,
Я, молада, журылася,
Што без долі радзілася.
А я ў Бога прасілася:
«Не кінь, Божа, ўдавою,
Дзяцей маіх сіротамі!»
А Бог мяне не паслухаў,
Кінуў мяне ўдавою,
Дзяцей маіх сіротамі.

А пайду я пагуляю,
Як рыбачка па Дунаю,
Рыба-шчука з вокунямі,
Я, молада, з малайцамі.

*Запісана ў 2010 г. ад Н. С. Бялугінай у в. Калодліва Касцюковіцкага р-на («Спадчына нашага краю»).*

## Як пайду, пайду

Як пайду, пайду,
Ой, як пайду, пайду
Ў сад зялёненькі гуляць.
Як сарву, сарву,
Ой, як сарву, сарву
З розных красачак цвяток.
Як саўю, саўю
На галовачку вянок.
Як пайду, пайду,
Ой, як пайду, пайду
Я на вуліцу гуляць.
Як спрашу, спрашу,
Ой, як спрашу, спрашу
Сваіх дзевачак-падруг:
«Ох, вы, дзевачкі,
Ох, вы, дзевачкі,
Вы, падружанькі мае,
Скажыце вы мне,
Ой, скажыце вы мне

Ўсю праўду пра мяне.
Ці сохнець-вянець,
Ой, ці сохнець-вянець
На галовачке вянок?
Ці тужыць-плачыць,
Ой, ці тужыць-плачыць
Па мне міленькі дружок?
Не сохнець-вянець,
Ой, не сохнець-вянець
На галовачке вянок.
Не тужыць, не плачыць,
Ой, не тужыць-плачыць
Па мне міленькі дружок».

*Запісана ад М. Хромчанка у в. Канічы («Спадчына нашага краю»).*

## Ой, зялёней дуба

Ой, зялёней дуба (2 разы)
Ўва ўсём лесе нет.
Ой, што мілей друга (2 разы)
Ва ўсём свеце нет.
Ой, як я спаць ляжу, (2 разы)
Спаць ня хочацца,
Ой, спаць ня хочацца.
У ва сне бачыцца:
Ой, а што мой церем (2 разы)
Растварён стаіць.

Ой, а што мой мілы (2 разы)
Са другой стаіць.

*Запісана ад М. К. Шалупінай, 1938 г. н., у в. Роскаш Хоцімскага р-на.*

## Троіцкая

А сады, мае садочкі, сады зеляныя,
А чаго, мае садочкі, раненька завялі?
Ці ат ветру, ці ат бурі, ці жаркага сонца,
Ці ттаго яны завялі, што я не бывала?
Я ж бывала, пылівала ранняю расою.
А ціперь я пыліваю горькаю слязою.
Як пад дубам, пад дубочкам, дзеўка
з парянёчкам,
Гываріла дзеўка речы патайныя:
«Ой, ты, парянь, парянёчак, не жанісь гадочык,
Пыдрасту я, красна дзеўка, хоць на дзін
вяршочык».
Парянь дзеўку не паслухаў, узяў ажаніўся,
Не ўзяў сабе тую дзеўку, з каторай любіўся,
А ўзяў сабе тую ўдоўку, з каторай браніўся.
А ўдовачка пасцель слала, слала-засцілала,
А йна свайго первага мужа, а йна ўспамінала:
«А за тым, за первым мужам, я спела, згуляла,
За табою, рассукін сын, горічка прімала».

*Запісала Т. Б. Варфаламеева ў 1993 г. ад Н. А. Старасценка, 1927 г. н., і групы спявачак у в. Янаполле Хоцімскага р-на.*

## ЖНІЎНЫЯ

### Пара, маці, жыта жаці

Пара, маці, жыта жаці,
Каласок схіліўся.
Пара, маці, дачку аддаці,
Галасок змяніўся.
Змяніўся мой галасочак
За адзін вечарочак.
Не сеяла, не пахала,
Само жыта родзіць.
Не любіла, не кахала,
Сам да мяне ходзіць.
Сам да мяне ходзіць.
Не сеяўшы, не пахаўшы,
Не будзе радзіці,
Не будзе радзіці.
Не любіўшы, не кахаўшы,
Не будзе хадзіці.

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Вецярок веіць, жыта палавеіць

Вецярок веіць, жыта палавеіць, (2 разы)
Наша Манічка работаць не ўмеіць. (2 разы)
Выйдзіць на поле — ад жары йна млеіць.
(2 разы)
Снапок нажала — стала, пастаяла, (2 разы)
Другі нажала — села, пасядзела, (2 разы)
Трэці нажала — легла, паляжала. (2 разы)

*Запісала З. Я. Мажэйка ў 1978 г. ад Р. З. Анціпенка, 1932 г. н., у в. Кісялёўка Касцюковіцкага р-на.*

# СЯМЕЙНА-АБРАДАВЫЯ ПЕСНІ

## ВЯСЕЛЬНЫЯ

### Непраўдзівая каліна

Непраўдзівая каліна (2 разы)
Казала — цвісці не буду, (2 разы)
Белага цвеціку не пушчу, (2 разы)
Красных ягадак не ўзрашчу. (2 разы)
Непраўдзівая Танечка (2 разы)
Казала — замуж не пайду, (2 разы)
Маладога Ванечку не ўзлюблю. (2 разы)
Як прішла пара, дык пыйшла, (2 разы)
Маладога Ванечку ўзлюбіла. (2 разы)

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2010 г. ад сваёй маці,*
*Н. З. Буранковай, 1922 г. н., ураджэнкі г. Касцюковічы.*

### А з гары, з гары вятры дзьмуць

А з гары, з гары вятры дзьмуць,
З чужой стараны госці йдуць.
Ніхто тых гасьцей ні пызнаў,
К сабе ў хатачку ні пызваў.
Адна Танечка пызнала,

К сабе ў хатачку пывела.
Пысадзіла йна ўсіх за стол,
Сама села йна вышэй усіх,
Задумала думачку большы ўсіх:
«Як жа мне назваць свёкарка?
Як жа мне назваць свякроўку?
Назаву яго — татачка,
А свякровачку — мамачка».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2010 г. ад сваёй маці,*
*Н. З. Буранковай, 1922 г. н., ураджэнкі г. Касцюковічы.*

## Хадзіла Танечка па расе

Хадзіла Танечка па расе,
А йна плакала па касе:
«Касіца мая русая,
Ні дзень я цябе чысала,
Ні нядзелічку ўплітала.
За адзін вічарок прайграла,
За адну чарачку прапіла,
За адно славечка аддала».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2010 г. ад сваёй маці,*
*Н. З. Буранковай, 1922 г. н., ураджэнкі г. Касцюковічы.*

## Ні жарка гарыш, каліна

Ні жарка гарыш, каліна, (2 разы)
Ні жалка плачыш, Танечка, (2 разы)
Ні разжаліла нікога — (2 разы)
Ні свайго роду, ні чужога. (2 разы)
«Калі захочу — разжалю. (2 разы)
Выплету я ўплёт з русых кос, (2 разы)
Павешу я ўплёт на прыплот. (2 разы)
Куды мая мамачка ў клець ідзець, (2 разы)
А ў клець ідучы, убачыць, (2 разы)
А з клеці йдучы, заплачыць: (2 разы)
“ Гэта ж маёй дачушкі ўплёткі, (2 разы)
Павесіла ж мне на слёзкі”». (2 разы)

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2010 г. ад сваёй маці,*
*Н. З. Буранковай, 1922 г. н., ураджэнкі г. Касцюковічы.*

## Ой, цёшча зяця на вячэрю ждала

Ой, цёшча зяця
На вячэрю ждала,
Салодкій сахор
На блюдзе клала.
Пріляцеў сакол,
Рассыпаў сахор.
Ах, нечым цёшчы
Зяця частаваць.

Прідзецца цёшчы
Дачку аддаваць!

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Няпраўдзівая каліна

Няпраўдзівая каліна
Казала — цвісці ня буду,
Белага цветка не пушчу,
Сільных ягадак не ўзраджу.
Як прішла весна — зацвіла,
Беленькій цвяток пусціла.
Сільныя ягадкі ўзрадзіла.
Няпраўдзівая Танечка
Казала — замуж не пайду,
Маладога Ванечку не ўзлюблю.
Як прыйшоў у сваты,
Дык пайшла,
Маладога Ванечку ўзлюбіла.
Сыры, масліца тапіла,
Свайго Ванечку карміла.
«Еш, мой Ванечка, не кайся,
Во табе платочык, уцірайся».
Уцірайсь, не ўцірайсь, выхваляйсь:
«Во маёй Танечкі платочык,
Што йна раненька ўставала,
Што йна тоненька напряла,

Што йна часценька наткала,
Што йна беленька бяліла,
А мне, малойцу, даріла».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Мамачка мая, я нега твая

«Мамачка мая, я нега твая,
Не аддавай мяне
Далёка ад сябе.
Аддай ты мяне
Блізка ад сябе.
Буду вады йціць,
На двор пагляджу,
На двор пагляджу,
Дабра наряджу».

«А куды ж ты, Танечка глядзела,
За такога недбайліцу захацела.
А ён жа дулат, а й грібат, не прігож,
Шапка казырька, пасярёд дзірка — ні яго,
На ём каптан хлап'ём напхан — ні яго,
Пазычона, папрашона ў суседа
На адзін дзянёк, на адзін вечарок — жаніцца».

*Запісала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковіцкага р-на.*

## Кукавала зязюлечка ў садочку

Кукавала зязюлечка ў садочку,
Прiхiлiўшы галовачку к лiсточку:
«А як жа мне ад птушычык адвыкаць?
А як жа мне к саколiку прiвыкаць?
То так, то сяк ад птушычык адвыкну.
То так, то сяк к саколiку прiвыкну».
Ай, плакала Танечка ў святлiцы,
Прiхiлiўшы галовачку к мамачкi:
«А як жа мне ад дзевачак адвыкаць?
А як жа мне к Ванечку прiвыкаць?
То так, то сяк ад дзевачак адвыкну,
То так, то сяк ды к Ванечку прiвыкну».

*Запiсала Л. Ф. Вырко ў 2012 г. ад Т. М. Растоўскай, 1933 г. н., у в. Пушкова Касцюковiцкага р-на.*

## У варот бяроза стаяла

*(як ад'язджае нявеста са двара)*

У варот бяроза стаяла, (2 разы)
Надзя са двара з'язджала, (2 разы)
Бярозаву ветачку сарвала: (2 разы)
«Стой, мая бяроза, без верху, (2 разы)
Жывi, мая мамачка, без мяне, (2 разы)
Без русай касы без маёй, (2 разы)
Без шаўковага вяночка, (2 разы)
Што ў русай касе насiла. (2 разы)

Йна горя маё красіла, (2 разы)
Цяперь некаму красіці, (2 разы)
Некаму вянка насіці». (2 разы)

*Запісана ад Г. П. Ламекінай, 1940 г. н., і Н. С. Будзянковай, 1935 г. н., у в. Енаполле Хоцімскага р-на.*

## На морі вутачка купалася

*(як збіраецца нявеста да вяселля)*

На морі вутачка купалася, (2 разы)
У каморі дзевачка сабіралася. (2 разы)
Падыйшла мамачка, пыталася: (2 разы)
«Куды ж ты, дачушка, сабіраешся? (2 разы)
Ай ці ў бор, шчырый бор пы ягадкі? (2 разы)
Ай ці ў луг зялёны па красачкі?»
«А што ты, родная, пытаешся?
Прапіўшы, прагуляўшы, насміхаешся».
(2 разы)

*Запісана ад М. К. Шалупінай, 1938 г. н., у в. Роскаш Хоцімскага р-на.*

## Ня конь капытом пызваніў

Ня конь капытом пызваніў,
Іван па сеніх пыхадзіў,
Сваю мамычку разбудзіў:

«Устань, мамычка, не ляжы,
Мне дарожачку укажы.
Ня стой, мамычка, у парозі,
А ўжо я ў цібе ў дарозі.
А стань, мамычка, блізенька,
Укланюсь табе нізенька.
Нізенька-нізенька ў ножкі,
У чырвоныя сапожкі.
Коскамі зямельку ўсцялю,
Слёзкамі боцікі абаллю».
«Пыджанішнічык, наш сакол,
Не садзіся ты між вакон.
Сяння птушыны пірялёт,
Уляціт табе сава ў рот.
Ня цісні яе зубамі,
Пацалуй яе губамі.
Даріця, цёткі, намёткі,
Хто не падоріць, пынясець,
Таго цяцюха затрясець.
А хто тутычка пакініць,
Таго пытрясець, ды кініць».

*Запісала Т. Б. Варфаламеева ў 1993 г. ад С. Р. Раманенка, 1918 г. н., і М. Ф. Анішчанка, 1927 г. н., у в. Трасціно Хоцімскага р-на.*

## Ай, рос, не дарос Іванька

Ай, рос, не дарос Іванька,
З прясла ны кыня садзіўся,
Ны прясле штаны забыўся.
Жалка мутузоў шалковых.
Штаны пяньковы — маткіны,
Мутузы шалковы — Манькіны.
Станьце, дзевачкі, у кружку,
Кідайця сваю падружку.
Падружка наша Манічка,
Нашто мы яе расцілі,
У чужыя людзі пусцілі?
Нашто мы яе гадавалі,
У чужыя людзі аддалі?
«Станьця, девачкі, ряд па ряду,
Пайду мамачку прівяду.
А ўсе рядушкі абашла,
Нідзе мамычкі не нашла.
Галоўка мая ў цвеце,
Нема мамачкі на свеце».
Маня верачкі не мела:
«Ці мой, ці не мой Іванька?»
Тады верачку паняла,
Як за ручычку ўзіла:
«Цяпер Іванька верны мой,
Як за столічык сеў са мной.
Спасіба свату за хату,

Спасіба свацце за вячерю».
Хараша была вячеря:
Шынкаваная капуста,
Абдзіраныя пірагі,
Іван, Манічку бірягі.
Пайдзём, пайдзём дворачку,
Каго мы тута пакінем?
Пакінем, пакінем Манічку.
Каму мы яе прыкажым?
Прыкажым, прыкажым Ванічку.

*Запісала Т. Б. Варфаламеева ў 1993 г. ад Л. М. Саўчанка і А. К. Раманенка ў в. Ліпаўка Хоцімскага р-на.*

## У нашыга дружка каротка ножка

У нашыга дружка каротка ножка,
Падстаўця яму дубовую калодку,
Штоб ён стаў, гарелачкі даў.
«Дзевачкі мае, прідзіця ка мне,
Прідзіця ка мне на адзін вечарок.
На адзін вечарок, а звейця вянок.
А звіця, звіця, воску ня мніця.
Воску ня мніця, цвятоў ня тріця».
«Ня бойся, Манічка, ціхінька саўём,
Воску не памнём, цвятоў не патрём».
Ні па чом пазнаць каліну ў лузе,
Ціхінька расце, беленька цвіце.
Ні па чом пазнаць Маню між дзевык,

Ціхінька стаіць, сільненька плачыць.
У руках платочык тонкі-беленькі,
Тонкі-беленькі, ад слёз мокрынькі.

*Запісала Т. Б. Варфаламеева ў 1993 г. ад Н. А. Міхаленка і групы спявачак у в. Варвараўка Хоцімскага р-на.*

## А ў гародзе ліпычка, кыра зылытая

А ў гародзе ліпычка, кыра зылытая,
Люлі мае, люлюшкі, кыра зылытая.
А пад тою ліпыю Мар'ічка сідзела,
Люлі мае, люлюшкі, Мар'ічка сідзела.
Мар'ічка сідзела, рушнік вышывала,
Люлі мае, люлюшкі, рушнік вышывала.
Рушнік вышывала, свёкара даріла,
Люлі мае, люлюшкі, свёкара даріла:
«А свёкарка-татачка, прімі мой падарычык,
Люлі мае, люлюшкі, прімі мой падарычык».
«А Мар'ічка-дзетачка, пріму твой падарычык.
Люлі мае, люлюшкі, пріму твой падарычык».

*Запісала Т. І. Кухаронак у 1993 г. ад М. Р. Чыбусавай, 1915 г. н., у в. Бяседавічы Хоцімскага р-на.*

## Сянні ў нас заручыны

Сянні ў нас заручыны, Бог нам даў,
Заручылі дзеўку проці пынядзелку,
Бог нам даў,
І пыдаркі з тонкай кітайкі, Бог нам даў.
Хадзіў, хадзіў Іванічка лі прясла,
Любіў, любіў ён Манічку напрасна.
А Колічка не знаў, не знаў, дый узяў.
Хадзіў, хадзіў Іванічка лі лескі,
Любіў, любіў ён Манічку ў насмешкі.
А Колічка не знаў, не знаў, дый узяў.

*Запісала Т. Б. Варфаламеева ў 1993 г. ад С. Р. Раманенка, 1918 г. н., і М. Ф. Анішчанка, 1927 г. н., у в. Трасцяно Хоцімскага р-на.*

## Заручынкі-закручынкі

Заручынкі-закручынкі Бог нам даў,
Пашлі дары ва ўсе двары, Бог нам даў,
Там-сяму пу падарычку, Бог нам даў,
Свайму любку з тонкай трубкі, Бог нам даў.

А конічык на стаянцы гагочыць,
А Манічка ад мамачкі ня хочыць.
Мы коніка забротаем, пывядзём,
А Манічку мы пасодзім, пывязём.

А ня етаму, маладзенькаму, дружком быць,
А етаму, маладзенькаму, свіней стрыч.

*Запісала Т. І. Кухаронак у 1993 г. ад М. Р. Чыбусавай, 1915 г. н., у в. Бяседавічы Хоцімскага р-на.*

## Ці забыў, Іванька, ці запямітаў

Ці забыў, Іванька, ці запямітаў,
Што табе мамычка гываріла?
«Паедзеш, сынок, у чужыя людзі,
Будзіць цябе цёшчухна чыстуваці,
Первыю чарачку ныліваці.
Ты ня пей, мой сынок, первай чаркі,
А й вылій коніку на грывычку,
Штоб была грывычка кыляненька,
Штоб была Манічка слухмяненька».

*Запісала Т. Б. Варфаламеева ў 1993 г. ад С. Р. Раманенка, 1918 г. н., у в. Трасцяно Хоцімскага р-на.*

# РАДЗІННЫЯ

## Эх, кум куме рад

Эх, кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград:
«Еш, кума, ягодкі,
Каторы салодкі.
Каторыя горкі,
Будуць маёй жонкі.
Каторыя сладкі —
Гэта маёй маткі.

Эх, кумка-кума,
Кума любліная,
Што ж у цябе рубашычка
Не падрубленая?
Буду кумку любіць
І рубашку рубіць. І-іх!»

*Запісала Т. І. Кухаронак у 1993 г. ад М. Р. Чыбусавай, 1915 г. н., у в. Бяседавічы Хоцімскага р-на.*

## У Івана, у Івана

У Івана, у Івана —
Вінаград на дварэ.
Пасадзіў, пасадзіў
Не людзям, а сабе.
У Івана, у Івана —
Вінаград на дварэ.
Ён садзіў, паліваў
Не людзям, а сабе.
Пасадзіў, пасадзіў
Бабу на куце:
«Пей, гуляй, бабачка,
Весяліся ў мяне.
Штоб маё дзіцятка
Вяліка расло,
Штоб маё малое
Шчасліва было».

*Запісала І. В. Скідан у 1968 г. ад З. Ф. Кляус, А. Ф. Кандраценка і А. Е. Боханавай у пас. Варашылава (в. Мікалаеўка) Касцюковіцкага р-на.*

## Бабка к унучцы баразёнкай ішла

Бабка к унучцы
Баразёнкай ішла.
Бабка к унучцы
Парасёнка нясла:
«На табе, унучка,
Парасёнка майго.
Падкрапі, унучка,
Жываточкі свае».

*Запісалі А. І. Гурскі і А. М. Хрушчова ў 1992 г. ад Ю. А. Патапенка, 1936 г. н. і К. І. Рэзнікавай, 1930 г. н., у в. Прусіна Касцюковіцкага р-на.*

# КРЫНІЦЫ

1. Мажэйка, З. Я. Песні беларускага Падняпроўя / З. Я. Мажэйка, Т. Б. Варфаламеева // Нац. акад. навук Беларусі. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. — Мінск : Беларуская навука, 1999. — 392 с.
2. Памяць. Касцюковіцкі раён : гіст.-дак. хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі / рэд. кал. : М. Р. Барысаў [і інш.]. — Мінск : Вышэйшая школа, 2000. — 525 с.
3. Фальклор Магілёўшчыны : матэрыялы з раёнаў, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС / склад. А. І. Гурскі, А. У. Марозаў, Н. Г. Мазурына. — Мінск : Беларуская навука, 2011. — 530 с.
4. Спадчына нашага краю : адметныя асаблівасці традыцый каляндарнай абраднасці на Касцюкоўшчыне / склад. Л. У. Патапенка // Цэнтр. раён. бібліятэка імя І. Чыгрынава. Аддзел бібліятэчнага маркетынгу. — Касцюковічы, 2010. — 64 с.
5. Пісьмянкоў, А. Я не памру, пакуль люблю : выбранае / А. Пісьмянкоў. — Мінск : Мастацкая літаратура, 2000. — 319 с.
6. Песенны фальклор Магілёўшчыны. Хоцімскі раён : сучасныя запісы. — Рэжым доступу: http //www.bsu.by/cache/pdf/345903.pdf

